


Чаму Круглэ стала Krągłe →3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714




Славянскае эсперанта →5


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 37 (3148) Год LXI Беласток, 11 верасня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**Гміна Чыжы — выключнае месца на карце Падляшша. Тут паводле перапісаў насельніцтва ад 2002 і 2011 гадоў беларусамі назвалі сябе больш за 80 адсоткаў жыхароў. У мясцовым комплексе школ амаль усе 130 дзяцей вывучаюць беларускую мову. Захоўванне аўтэнтычнай мовы сведчыць аб захаванні сапраўднай экзістэнцыі, таму што яна карысна ўплывае на свядомасць чалавека. Шкада толькі, што нягледзячы на ахвоту жыхароў на ўсталяванне двухмоўных надпісаў, гмінныя ўлады гадамі адтэрміноўваюць гэтае рашэнне.**

Святой літургіяй пачалася інаўгурацыя навучальнага года ў Чыжах. У цырымоніі прымалі ўдзел мясцовы бацюшка, войт гміны Ежы Васілюк, дырэктар школы Міраслаў Пяткевіч і перш за ўсё настаўнікі і школьнікі. Комплекс школ у Чыжах гэта асветная ўстанова, у якой больш за 90 адсоткаў вучняў прымае ўдзел у занятках па беларускай мове. Тыя, якія не запісаліся на ўрокі роднай мовы, таксама прысутнічаюць у іх у якасці «вольных слухачоў». Як адзначыў дырэктар школы Мірaслаў Пяткевіч, гэта адна з галоўных адукацыйных канцэпцый установы: «Школа з'яўляецца навучальнай установай, у якой адзін з найбольшых адсоткаў вучняў, якія вучаць беларускую мову. Гэта сведчыць пра тое, што ў мясцовым грамадстве захоўваецца традыцыя продкаў і мы, як школа, будзем



■ Злева: войт гміны Ежы Васілюк, дырэктар школы Міраслаў Пяткевіч

# Чыжавяне адстойваюць беларускасць

імкнуцца культываваць гэтую традыцыю, у тым ліку і праз навучанне беларускай мове».

Рада Чыжоўскай гміны 27 лютага 2002 года прыняла пастанову аб стварэнні на аснове Падставовай школы і Гімназіі Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы.

Для нас гэта вельмі важнае, што ў нашай школе выкладаецца беларуская мова. Гэта той фактар, які ўплывае на развіццё нашай установы, — адзначыў войт Чыжоўская гміны Ежы Васілюк. — Таму такі націск дырэкцыя кладзе на ўзровень навучання мовы. Таксама колькасць вучняў, якія запісаліся на заняткі беларускай мовы, сведчыць аб стараннях школы па ўсведамленні бацькам, якой мы гмінай з'яўляемся. Бо на фоне іншых гмін, калі ідзе пра навучанне беларускай мовы, мы выпадаем вельмі добра.



Размаўляючы з бацькамі, складваецца ўражанне, што яны больш самаўпэўнены ў сваёй беларускасці, чым лічаць улады. Гэта яны звярнулі ўвагу на тое, што «Ніва», якая заўсёды была прысутная на занятках беларускай мовы, цяпер не выпісваецца школай.

— За маіх часоў «Ніва» была ў школе, — кажа адзін з бацькоў. — Дзеці чыталі „Зорку", вялі карэспандэнцыю з іншымі дзецьмі-чытачамі. Не ведаю чаму цяпер гэта спынена. На маю думку, «Ніва» павінна быць у нашай школе. Цяжка не пагадзіцца з бацькамі.

Настаўніцы беларускай мовы ў Чыжах Валянціна Андрасюк і Анна Лаеўская падкрэсліваюць, што бацькі ў Чыжах ахвотна пасылаюць дзяцей на ўрокі беларускай мовы. Не толькі з-за таго, каб падтрымаць мову дзядоў, але з простай прычыны — заняткі цікавыя вучням.

— Можна сказаць, што ў нас беларускай мове вучацца ўсе дзеткі, бо нават тыя, якія не запісаліся на ўрокі, і так удзельнічаюць у занятках. Мы стараемся ўводзіць разнастайнасць, — падкрэслівае Валянціна Андрасюк. — Не абмяжоўваемся толькі да навучання мовы на занятках, але таксама вядзем беларускі тэатральны гурток, які пазней выступае на шматлікіх гмінных, але не толькі, мерапрыемствах.

Відавочна, што чыжавяне моцна адстойваюць сваю культуру, паколькі прыезджых з Польшчы яна прываблівае.

— Мы жывем тут ад пяці гадоў, але сваіх дзяцей пасылаю на ўрокі беларускай мовы, — адзначыла адна з маці, якая сама з'ехала на Падляшша з глыбіні Польшчы. — Я захоплена беларускай культурай. Нават нашай польскай не культывуецца так, як тут. Для мяне гэта вельмі падабаецца.

Самі жыхары, аб чым сведчаць перапісы насельніцтва, не сумняваюцца ў пытанні сваёй тоеснасці. Большасць з іх хацела б двухмоўных надпісаў. Суседняя гміна Орля не мела падобнага тыпу дылем і ўжо ў 2011 годзе ўвяла двухмоўныя надпісы. Аднак войт Чыжоўскай гміны Ежы Васілюк, які для мясцовых з'яўляецца проста Юркам Васілюком, больш за ўсё двухмоўныя надпісы лічыць другаснай справай.

— Я ведаю, што ёсць такая патрэба і ўпэўнены, што хутка і ў Чыжах з'явяцца двухмоўныя надпісы. І сапраўды, будучы на сустрэчах з жыхарамі Чыжоў, бачу, што яны вельмі чакаюць двухмоўных указальнікаў. Усё ж такі, на першы план выходзяць справы інфраструктурныя, — тлумачыць войт Ежы Васілюк. — Я прашу цярплівасці, таму што дакладна ведаю, якой гмінаю я кірую. Ведаю, што для многіх жыхароў нашай гміны двухмоўныя надпісы сведчылі б аб нашай тоеснасці, але ўсё ж такі трэба гэта рабіць асцярожна.

Двухмоўныя дарожныя знакі з назвамі мясцовасці з'яўляюцца адным з дабрадзействаў Закона аб нацыянальных і этнічных меншасцях. У адпаведнасці з ім, кожная гміна, у якой сама меней 20% жыхароў лічаць сябе беларусамі, можа ўсталяваць двухмоўныя дошкі з назвамі населеных пунктаў. Рашэнне ў гэтым выпадку павінна прыняць Рада гміны, якая таксама хадайнічае ў Міністэрстве ўнутраных спраў і адміністрацыі аб прафінансаванне ўсталявання двухмоўных знакаў.

❖ Уршуля ШУБЗДА





# Усё пра выбары

Ужо ў гэтыя выхадныя ў Беларусі завершацца выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання. Асноўны дзень галасавання прыпадае на 11 верасня, сумна вядомую дату, калі ўвесь свет будзе ўспамінаць ахвяры адной з самых жудасных трагедый, калі тэрарысты на пасажырскіх самалётах заатакавалі сімвалічныя і знакавыя будынкі ў ЗША. Колькасць загінулых у той чорны дзень выклікае жах, шкадаванне і смутак. Гэты дзень чалавецтва ўспрымае як пераломны, пасля якога людзі па планеце Зямля канчаткова зразумелі, што яны жывуць у эпоху непасрэднай і пастаяннай тэрарыстычнай пагрозы.

Зразумела, што для большасці сусветных інфармацыйных рэсурсаў тэма беларускіх выбараў у гэты дзень будзе на такім заднім плане, што большасць людзей планеты пра іх нават не даведаецца. Асноўнай жа гэтая тэма будзе на старонках і тэлеэкранах ды радыёхвалях беларускіх СМІ. Праўладнае тэлебачанне і прэса ўзахлёб раскажуць пра створаныя ўладай найзручнейшыя ўмовы для волевыяўлення беларускага народа. Мы ўбачым прыгожыя лічбы галасавання і даўно вядомыя аналітыкам прозвішчы новых абраннікаў народа.

Нешматлікія апазіцыйныя і незалежныя СМІ правядуць свой аналіз і зробяць свае высновы. Яны будуць кардынальна адрозніваецца ад высноў дзяржаўнай прэсы. Але і з іх старонак выбарчая тэматыка за вельмі кароткі час знікне зусім як нецікавая і практычна нечытальная. А новая Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання пачне займацца сваёй галоўнай працай, дзеля чаго яна па сутнасці і стваралася. Пачне змагацца за міжнароднае прызнанне гэтых выбараў і легітымізацыю сённяшняй улады і саміх сябе на міжнародным палітычным полі.

А на міжнародным палітычным полі чакаюць гэтага даўно і з нецярпеннем і толькі нервова моляцца, каб хоць у апошнія дні выбараў беларуская ўлада не нарабіла чагосьці такога, што пры ўсім жаданні тады не дазволіць прызнаць выбары хоць крыху адпавядаючымі міжнародным нормам і дэмакратычным стандартам.

Зрэшты, гэта не першае памкненне заходніх краін прызнаць беларускія выбары справядлівымі. Еўрапейцы даўно былі гатовы прызнаць і парламенцкія, і прэзідэнцкія выбары ў Беларусі, каб пачаць больш цесную супрацу. І рабілася дзеля гэтага багата чаго. Толькі вось усе гэтыя намаганні з цягам часу заходзілі ў тупік. Але новаабраныя палітычныя сілы ў Еўропе пасля кожных новых сваіх выбараў усё пачыналі з пачатку, думаючы што іх папярэднікі былі нашмат за іх горшыя і няўмелыя, што не змаглі даць рады з гэтым беларускім пытаннем. Ну а ў іх то цяпер усё нібыта атрымаецца.

І зноў усё пачынаецца з нуля, з самага пачатку, гэтак жа прадказальна, бяздарна, безвынікова, прымітыўна, банальна, брутальна і вельмі-вельмі сумна.

Хоць гэтае еўрапейскае жаданне не мець праблем і канфліктаў з беларускім кіраўніцтвам цалкам зразумелае. Ну, трэба ж, каб хоць нешта станоўчае было ў іх палітычнай дзейнасці. Еўропа задыхаецца ад міграцыйнага крызісу, які ўжо пацягнуў небывала рэзкую змену палітычных эліт. Многія еўрапейскія краіны ўвесь час жывуць з аб'яўленай высокай ступенню тэрарыстычнай пагрозы. Псуюцца адносіны з нядаўнімі саюзнікамі, такімі як Турцыя. Не наладжваюцца адносіны з Расіяй...

Ну, хоць бы Беларусь была зонай адноснай стабільнасці! Хоць бы нават з гэтым кіраўніцтвам! Другога ўсё адно не прадбачыцца ў бліжэйшай будучыні! Вось таму, думаюць яны, выбары трэба прызнаць...

Я займаюся на гэтых выбарах назіраннем. Да мяне падыходзіла за гэты час многа людзей, якія таксама хацелі б гэтым займацца, але большасць з іх баіцца. Кажуць, што дакладна нажывуць сабе з-за гэтага праблем і на працы, і па месцы жыхарства, і ўвогуле паўсюдна. І калі ім кажаш, што гэта ўсё законна, афіцыйна, згодна з Канстытуцыяй і выбарчым заканадаўствам, якое не толькі прадугледжвае права быць назіральнікам, але і вітае гэта, то людзі толькі ўсміхаюцца і кажуць, што праблем пасля ўсё адно не абярэшся, хоць усё нібыта законна і згодна з выбарчым заканадаўствам...

Гэта ўсё, што трэба ведаць пра беларускія выбары.

Віктар САЗОНАЎ

# Камо грядеши, мішка?

«Тося падчас Нацыянальнага чытання страціла свайго любімага плюшыка. Гаворка пра крэмавага колеру плюшавага мішку. Сумленнага знаходніка просім, каб мядзведзіка накіраваў у Канцылярыю Прэзідэнта РП», — заклікаў прэзідэнт Анджэй Дуда ў нядзелю ўвечары на фэйсбуку. — Я абяцаю, што як толькі мядзведзік будзе знойдзены, як мага хутчэй будзе перададзены ў рукі Тосі, якая чакае яго. Калі ласка, — дадаў ён.

Дзякуючы гэтаму запісу пошукамі мішкі займаецца па меншай меры палова падзеленай на два палітычныя плямёны Польшчы. Варта падкрэсліць, што прэзідэнт РП быў афіцыйным сведкам гэтай драматычнай падзеі. Гэта адбылося апоўдні ў мінулую нядзелю падчас агульнапольскай кампаніі Нацыянальнага чытання. Прэзідэнт адкрыў яго асабістым лектаратам. Сёлета трапіла на раман Генрыка Сянкевіча, па сутнасці, «Камо грядеши» («Quo vadis?"). Невядома, да якой старонкі твора дачытаў Першы Чытач РП, пакуль яго чытання ўслых не перарваў скрушлівы плач дзіцяці. Інфармацыйныя агенцтвы маўчаць пра гэта. Справа ў тым, што ён пачаў чытаць, але калі дачытаў? Ва ўсякім разе, гэта не мае значэння.

Кожнага канца, як падказвае жыццёвы вопыт, трэба шукаць заўсёды ў самым пачатку. Гэта зусім не абазначае, што ў гэтым правіле прымяняецца правіла адвернутага парадку, згодна з якім «які пачатак, такі і канец!» Гэтага, вядома, не можам праверыць. Таксама і цяпер. Узяць хоць бы такі выпадак як драматычнае знікненне ружовага поні. Гэта была наймілейшая «прытулянка» адной дзеўкі па імені Еля Рутовіч. На жаль, пра яе ніхто не памятае, яе коніка таксама. Таксама іх аб эмацыйных адносінах. І гэта так, як быццам ні пачатку гэтай слязлівай гісторыі не было, ні яе канца. Хоць я пацвярджаю сваёй уласнай памяцю, што страчаным ружовым поні жыла ўсе гэтыя гады да таго часу непадзеленая Польшча. Прынамсі тэарэтычна ўся. Таму што практычна лініі нацыянальнай неадпаведнасці ўжо даўно былі зарысаваны дэструктыўнай тэктонікай палітычных працэсаў, якія пачаў 1989 год і сацыяльна рызыкоўны план Бальцаровіча. Польшчы, праўда, ён не зламаў карак і нават падняў яе эканамічна з кален, але ў сацыяльным плане быў ён разбуральным. Разлупіў ён грамадства на пласты і плёнкі, на бенефіцыянтаў і ахвяры палітычных перамен. Пераможцы далучыліся да ўпэўненых у сабе эліт, часта асацыяваных з уладай. Няўдачнікі трымаліся ў масавым і інертным расцяруцшанні. Да таго часу, пакуль не сабраў іх у сілу — спачатку авантурны папулізм Лепера, а пасля цынічны Качынскага. Але я думаю, што Гісторыя аддасць прафесару Бальцаровічу справядлівасць. А таксама тым, хто сёння вешае яго на шыбеніцу.

Кожнаму па праўдзе. Але не такой, якую весціць цяперашні прэзідэнт, прапаноўваючы некалькі дзён таму, што пасля 1989 года да моманту яго прэзідэнцтва Польшчай толькі «тэарэтычна» не кіравалі здраднікі. Такім чынам, робячы лагічны разбор гэтага выказвання, калі не ў тэорыі, то кіравалі ёю практычна... здраднікі?! Ці таксама ў 2005-2007 гадах, калі ўладу ў дзяржаве пераняло ПіС? Можна, вядома, паставіць да абуральнай (ці, калі хто хоча: нязручнай) заявы прэзідэнта як да абмаўлення. Толькі атрымліваецца, што абмаўляецца ён вельмі часта. Ці, можа: ахвотна. І так часта, ці ахвотна, што ёсць абгрунтаванае падазрэнне, што робіць гэта знарок. Магчыма, ненаўмысна, але тады можна было б паставіць яго ў няёмкую ролю недавукі. Я згадаю толькі смаленскія «абмаўленні», калі гаворыць пра ахвяр авіякатастрофы, што яны «polegli», а не загінулі. Абмовіўся таксама пры плюшавым мішку Тосі. У запісе на фейсбуку ён выкарыстоўвае слова «zginął» у сэнсе «згубіўся», у чым папракаюць яго нават дружалюбныя для яго інтэрнэт-карыстальнікі.

Прэзідэнту Дуду можа верыць, або не. Па дадзеных нядаўніх апытанняў, праведзеных CBOS аж 64% палякаў мае для яго давер. А не давярае толькі 24%. Для параўнання, Яраславу Качынскаму не давярае амаль удвая больш рэспандэнтаў — цэлыя 47%. У той час давярае толькі 37%. Цікава, у якім працэнце давяраюць яны адзін аднаму? Няхай там... Хай кожны з іх стварае давер адзін да аднаго па-свойму. У любым выпадку, давер да прэзідэнта павысіцца, калі мядзведзік вернецца ў рукі Тосі. І вось для гэтага Анджэю Дуду Тосін мішка. Прамаўляючы словамі героя фільма Станіслава Барэі «Miś»: „Ён адказвае на надзённыя патрэбы ўсяго грамадства. Гэта мішка ў маштабе нашых магчымасцей. Ты ведаеш, што мы робім дзякуючы гэтаму мішку? Мы адкрываем вочы тым, хто не верыць...».

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Варэнне круглы год

Чалавек жыве і часта не дацэньвае таго, што мае. Сваім нараканнем можна давесці іншых людзей да шаленства, а ў некаторых нават выклікаць патрэбу закупкі пісталета. У мяне, на шчасце, на такіх брахуноў ёсць лякарства ў выглядзе... варэння. Найлепей з яблык і сліў. І калі мая сяброўка Валярына з Давыд-Гарадка прывезла ў гэтыя выхадныя падарунак у выглядзе слоіка варэння з яблык, я проста ад радасці расплыўся. Ну і з падарункам справіўся вокамгненна, уключна з аблізваннем пальца на канец. Проста смак варэння быў неверагодна класны. Перад маімі вачыма ўзгадаўся адразу вобраз, калі гэтай парою мая мама на кухні цэлымі днямі гатавала варэнне. Пахі і смакі дзяцінства заўсёды будуць з намі. Але не толькі пра варэнне хачу сёння распавесці.

Без аніякай фальшывай агаворкі магу напісаць, што ў гэтыя выхадныя Беласток стаў сапраўднай культурнай сталіцай. Колькасць мерапрыемстваў нават найбольшых ныцікаў павінна прымусіць да сцвярджэння, што ў нас не ўсё найгоршае. Канцэрт Ніно Катамадзэ ў суботу і «Народны альбом» у нядзелю гэта проста жамчужынкі ў нашым падляшскім свеце. Праз тыдзень пра «Народны альбом» напіша дэталёва Мікола Ваўранюк, але сёння хачу сказаць толькі адно: для мяне гэтая падзея стала проста варэннем на душу. І рэч неверагодная — Мінск, Гродна, Варшава ў мінулую нядзелю пераехалі ў Беласток. Колькасць вядомых прадстаўнікоў беларускай культуры, палітыкі, журналістыкі магла ўразіць нават найбольшых малавераў. І смешнасцю для мяне стаў такі момант, калі два менчукі расцалаваліся ад радасці па прычыне сустрэчы, бо два гады іхнія дарогі не маглі перасячыся ў родным горадзе. Таму хачу сказаць дзякуй тэлеканалу «Белсат» за зробленую ім справу. І прытым таксама не менш важная рэч, што на якасную, беларускую культуру ёсць запатрабаванне сярод польскага грамадства. Такім чынам ужо зусім не іранічна, цытуючы нашага класіка Сакрата Яновіча і яго назвае «Wielkie miasto Białystok», трэба сцвердзіць, што ў гэтым загалоўку ёсць зерне праўды. Гэта ўвогуле адвечная тэма: як быць беларускай культуры ў працы беластоцкіх установ? Жывучы разам, мы проста не можам абысціся адзін без аднаго. І няхай простыя словы стануць простай праўдай.

Але, на жаль, так ёсць, што самае простае з'яўляецца самай цяжкай праблемай. Нявырашаная квадратура кола. Круглага — як назва маёй суседняй пушчанскай вёсачкі, якую невядома кім перахрысцілі на Krągłe і сёння адбываецца ў маёй гміне дэмакратычны цырк пад назвай грамадскія кансультацыі наконт назвы мясцовасці. Увогуле справа назваў мясцовасцей патрабуе выпраўлення. Не магу зразумець логікі любой мясцовай улады, якая мае ў непаваже гістарычныя назвы мясцовасцей. Тым горш для нас саміх, што гэта беларускія чыноўнікі не хочуць зафіксаваць моўнай праўды. То менавіта Сакрат Яновіч і ягоны сын Яраслаў пайшлі на змаганне з польскай бюракратыяй у справе спаланізавання назваў беларускіх вёсак. На жаль, аказалася, што праблемы толькі ўскладняюцца, а не вырашаюцца ў нашу карысць. Войтаў, радных, настаўнікаў так па-чалавечы запытаюся: ці хочам памірaць поўнасцю агаленымі са сваёй тоеснасці? І калі слухаю, як плятуць гмінныя ўладары пра нашу шматкультурнасць і традыцыю, то нож адкрываецца ў кішэні на такое пустаслоўе. Праўду гавораць тыя, што найбольшымі беларускімі ворагамі з'яўляюцца самі беларусы. Як бумеранг вяртаецца тут і справа падвойных назваў мясцовасцей. Менавіта тады была б магчымасць выправіць усе — прабачце за слова — дэбілізмы на дарожных указальніках. Але нікому нічога не хочацца рабіць і выпраўляць. Механізм рэнегацтва працуе па поўнай праграме. Мабыць камусьці гэтыя словы здадуцца занадта змрочнымі, але такая рэчаіснасць. І адна гміна Орля на гэтым фоне не можа быць фігавым лісткам, якім прыкрываем нашу духоўную беднасць. Тады застаецца толькі варэнне.

Яўген ВАПА

# Падчас Успення

## Прасвятой Багародзіцы ў Вярстоку і Круглым

**Падчас святкавання Успення Прасвятой Багародзіцы вернікі з цэлага прыхода і прыезджыя сабраліся 28 жніўня ў Вярстоку, дзе адбылося асвячэнне царквы пасля грунтоўнага рамонту. Адзначалася таксама 250-годдзе існавання царквы Уздзвіжання Крыжа Гасподняга, а пасля абеду чыноўнікі Гмінай управы ў Дубічах-Царкоўных наведалі жыхароў вёскі Круглае, якая належыць да Вярстоцкага прыхода, і правялі там кансультацыі наконт прапановы змены афіцыйнай назвы іх сяла з «Krągłe», на «Krugłe». У Круглым — чатыры дамы, пяты будуецца, а на пастаяннае жыхарства прапісаны 5 асоб. Хаця жыхары Круглага раней падтрымалі ідэю змены назвы іх вёскі з «Krągłe», на «Krugłe» і далі згоду, каб гмінны радны з іх сяла Віктар Кэндысь заняўся справай, то большасць жыхароў Круглага падчас апытання не падтрымала такой ідэі і працэс перайменавання быў спынены.**

Зранку вернікі Вярстоцкага прыхода і выхадцы з гэтай пушчанскай парафіі сталі збірацца на цвінтары, захапляючыся шыкарна адрамантаванай царквой і чакаючы прыезду мітрапаліта варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы, які пазней у саслужэнні шматлікіх святароў узначаліў малітвы падчас асвячэння прастола, цэлай царквы і ў час літургіі, якая служылася на асвячоным прастоле. Звяртаючыся да вернікаў, мітрапаліт Сава заклікаў вучыць маладое пакаленне захоўваць сваю веру, родную мову і свае традыцыі. Асабліва пахваліў ён настаяцеля прыхода ў Вярстоку айца Паўла Кучынскага, яго сілы, энергію і ангажаванасць у рамонт цэркваў у Вярстоку і Апацы. Парафіяльнага старасту Віктара Патэюка і мастака Івана Парабака з Пачаева, які аднавіў іканастас, мітрапаліт узнагародзіў ордэнамі святой роўнаапостальнай Марыі Магдаліны трэцяй ступені, а пахвальныя граматы перадаў Яраславу Саевічу і Яраславу Кэндысю. Мітрапаліт Сава пахваліў таксама прысутнага на ўрачыстасцях падляшскага ваяводскага кансерватара помнікаў Анджэя Навакоўскага і леснікоў Гайнаўскага надлясніцтва, якія ўстанавілі пры царкве крыж на памятку 250-гадовай даўнасці мясцовага храма. Дапамагалі таксама ўлады Следчага арышту ў Гайнаўцы, вязні якога працавалі падчас рамонту царквы. Хваліў мітрапаліт таксама іншых ахвяравальнікаў вядомых і тых, якія хацелі захаваць ананімнасць. На ўрачыстасць прыбылі таксама гмінныя, павятовыя і ваяводскія самаўрадаўцы. У канцы святкавання асвячаліся збожжа, агародніна, фрукты і кветкі.

— Рамонт царквы распачаўся ў 2013 годзе і доўжыўся тры гады. Праводзіўся перш за ўсё на сродкі Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, Дубіцкай гміны, прыхода і многіх людзей добрага сэрца. Да нашага прыхода належаць жыхары ажно 14 вёсак, распалажаных у 4 гмінах, але ўсіх нашых вернікаў толькі каля 300 асоб і таму складана было сабраць сродкі ў якасці ўласнага ўкладу. Патрэбна была даведка з банка, што на прыхадскім рахунку ёсць 300 тысяч злотых уласнага ўкладу, каб атрымаць сродкі для рэалізацыі напісанага намі праекта. Мы грунтоўна адрамантавалі царкву звонку і ўсярэдзіне. Паклалі новую шалёўку і электраправодку, зрабілі ацяпленне, аднавілі іканастас і 3 ківоты з іконамі. Уставілі новыя вокны, выканалі новую лесвіцу і аднавілі дзверы. Храм быў перакрыты, а на ім былі выкананы новыя купалы і крыжы на іх. Агароджу мы часткова рамантавалі, часткова будавалі новую. Нашу царкву акружаюць старыя ліпы, якім больш за дзвесце гадоў, — сказаў яшчэ перад святкаваннем іерэй Павел Кучынскі, настаяцель Вярстоцкага прыхода, якога мітрапаліт Сава ўзнагародзіў узвядзеннем у сан протаіерэя ў знак прызнання заслуг пры грунтоўных рамонтах цэркваў у Вярстоку і Апацы. Іаанна Сапяжынская з Вітава, настаўніца гісторыі ў Комплексе прафесійных школ у Гайнаўцы, даследавала гісторыю царквы ў Вярстоку і падчас святочнага абеду для гасцей святкавання мела выступіць з дакладам.



■ Рыгор Саевіч з Круглага рашуча сказаў, што падчас кансультацый прагаласуе за змену назвы вёскі з «Krągłe» на «Krugłe»



■ Падчас святкавання Успення Прасвятой Багародзіцы ў шыкарна адрамантаванай царкве ў Вярстоку і каля яе маліласся многа святароў і вернікаў

— Фундатарам царквы ў Вярстоку быў Юзаф Вільчэўскі з Вільчэва. Будова пачалася ў 1766 годзе. Царква належала да Дубіцкага прыхода, а ў 1940 годзе была ўстаноўлена самастойная парафія ў Вярстоку, якая дзейнічае па сённяшні час, — сказала Іаанна Сапежынская, якая мяркуе, што перад цяперашняй раней была збудавана яшчэ іншая царква.

На тыдні перад Успеннем Прасвятой Багародзіцы пабываў я ў гміннай управе ў Дубічах-Царкоўных, наведаў айца Паўла Кучынскага ў Вярстоку і заехаў у Круглае.

— Я станоўча стаўлюся да прапановы змены афіцыйнай назвы сяла з «Krągłe», на «Krugłe», хаця я гаварыў, што калі ўжо мясцовыя жыхары мяняюць назву вёскі, то няхай гучыць яна так, як называюць яе мясцовыя жыхары — «Kruhłe». На сесіі Рады гміны была прынята пастанова аб правядзенні кансультацый наконт змены афіцыйнай назвы вёскі з «Krągłe», на «Krugłe» і яны былі вызначаны на 28 жніўня, калі ў Круглым у святочны дзень дома будуць усе жыхары вёскі, — сказаў войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі.

— Мы запланавалі спаткацца 28 жніўня ў тры гадзіны пасля абеду і тады пад'ехаць у Круглае. Прапісаны там на пастаяннае жыхарства 5 чалавек. Думаю, што калі прапанова змены назвы вёскі выйшла ад жыхароў Круглага, то яны ў апытанні падтрымаюць такую ідэю. Мы ўжо нават падрыхтавалі праект пастановы для Рады гміны, на аснове якой будзе можна выступіць у Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі за змену афіцыйнай назвы вёскі, — сказаў сакратар Дубіцкай гміны Мікалай Лаўрыновіч.

У вёску Круглае дабіраўся я па асфальтавай дарозе, а ад Вілюкоў — па вузкай гравійцы. У гэтай невялікай вёсачцы 4 хаты і за адной з іх вялікі новабудаваны дом. На адным панадворку ўбачыў я дарослых і дзетак, а на 3 іншых панадворках было пуста.

— Пры санацыі вёска называлася «Kruhłe», а пасля памянялі на «Krugłe». Калі памянялі на «Krągłe», нават нам аб гэтым не паведамілі, не гаворачы ўжо, што не спыталіся ў нас пра патрэбу такой змены. Мы выпадкова даведаліся, што жывем у сяле «Krągłe», калі нашага жыхара затрымала паліцыя. Пасля мы патрабавалі паставіць указальнік каля нашай вёскі, па дарозе з Вілюкоў, каб хуткая дапамога ведала куды павярнуць, едучы да хворага. Прымацавалі нам дошку з назвай «Krągłe», што выклікала абурэнне. Нарэшце мы нядаўна спаткаліся і супольна рашылі вярнуцца да папярэдняга названня «Krugłe». Можна было б вярнуцца да назвы «Kruhłe», як называюць нашу вёску мясцовыя, але маладыя ўжо звыкліся з назвай «Krugłe» і не такі назоў мы рашыліся, — сказаў Рыгор Саевіч, найстарэйшы жыхар Круглага. — У нядзелю будзе праведзена апытанне ў справе змены назвы сяла і я буду галасаваць, каб вярнуцца да назвы «Krugłe».

— Мы з мужам прапісаны ў Беластоку і не зможам прыняць удзелу ў апытанні наконт змены назвы нашай вёскі, але мы за зменай на «Krugłe». Зараз муж пастаянна тут жыве, займаецца ўзвядзеннем новага дома і даглядае старога бацьку. Калі я выйду на пенсію, збіраемся з мужам пераехаць сюды на пастаяннае жыхарства, — сказала Ірэна Бобр, дачка Рыгора Саевіча.

Дзве хаты ў Круглым пустуюць. Выходзячы з панадворка Саевічаў, убачыў я мужчыну, які вяртаўся дамоў на веласіпедзе.

— Я яшчэ не вырашыў, ці падчас кансультацый буду за цяперашнім названнем сяла, ці за прапановай змены на «Krugłe», — сказаў Яраслаў Кэндысь, які пазней атрымаў пахвальны ліст ад мітрапаліта Савы за рамонт царквы ў Вярстоку.

— Аб апытанні ў справе змены назвы нашай вёскі, якое будзе праведзена 28 жніўня, мы ведаем здаўна. Нават на нашым плоце вісіць аб'ява, якая ўдакладняе, якая прапануецца змена назвы нашага сяла. Калі я размаўляла з Віктарам Кэндысем у справе змены на «Krugłe», то я была за такой зменай, але пасля размовы з дачкой памяняла погляд на гэтую справу. Дачка сказала мне, што дастаткова ёй вазіць мяне па лекарах і не павязе мяне ў Гайнаўку, каб мяняць усе дакументы, — заявіла Марыя Кэндысь, якая жыве праз адзін дом ад Саевічаў. — У майго сына ёсць машына і трэба было б яму таксама мяняць тэхпашпарт і вадзіцельскія правы.

Тры сыны Марыі Кэндысь прапісаны на пастаяннае жыхарства ў Круглым і яны мелі вырашыць падчас апытання, якой будзе назва вёскі. Падчас святкавання каля царквы ў Вярстоку старшыня Рады Дубіцкай гміны Юры Карпюк і радны Віктар Кэндысь у размове са мной былі яшчэ пераканаваны, што назва вёскі «Krągłe» будзе зменена на «Krugłe».

— Я сёння размаўляў з Яраславам Кэндысем і сёння ў Круглае паедзе яшчэ асоба, якая будзе працісць сям'ю Кэндысаў, каб падчас кансультацый галасавала за змену назвы на «Krugłe». Я добрай думкі, што большасць жыхароў вёскі прагаласуе за назваеннем «Krugłe», — сказаў радны Віктар Кэндысь.

Юры Карпюк, Віктар Кэндысь і войт Лявон Малашэўскі пахвалілі айца Паўла Кучынскага за правядзенне грунтоўнага рамонту царквы ў Вярстоку, а словы захаплення царквой пасля рамонтных прац можна было пачуць таксама ад сабраных у царкве вернікаў, якія перад ад'ездам дамоў прыкладаліся да плашчаніцы Прасвятой Багародзіцы і да іконы святога Георгія з Палічнай. Перад вечарам у Дубічах-Царкоўных Галоўнае праўленне БГКТ сарганізавала беларускі фэст. Пасля нядзелі сакратар Дубіцкай гміны Мікалай Лаўрыновіч сказаў мне, што падчас кансультацый у Круглым толькі адна асоба галасавала за змену назвы з «Krągłe» на «Krugłe», а 4 асобы прагаласавалі, каб пакінуць назву «Krągłe».

— Назва нашай вёскі «Krągłe», якая паявілася невядома адкуль, гэта нават не польскамоўны варыянт назвы Круглэ, бо папольску было б «Okrągłe». Гэта невядома які варыянт, — заявіла раней Ірэна Бобр, якая выказвалася за змену назвы вёскі.

Зараз можна пад'ехаць у Гурны Груд, дзе ад трыццаці гадоў стаіць указальнік «2 Krugłe», паглядзець на яго і ўспомніць як калісь называлася вёска. Ініцыятыва жыхароў Круглага паказала, што можна вярнуцца са спольшчанага названня вёскі да гістарычнай назвы і што гэта нескладаны працэс. Аднак гэтую ініцыятыву спыніў страх перад фармальнасцямі, якія неабходныя пры змене некаторых дакументаў і боязь, што трэба будзе выдаткаваць на гэта грошы. У выпадку некалькіх жыхароў Круглага такія сродкі можна было б пашукаць у нейкага спонсара.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Гісторыя запісаная карцінамі

Гімназічную моладзь з Комплексу школ у Орлі трэба пахваліць за вялікую ангажаванасць у пошукі і замацаванне сваёй мясцовай гісторыі. Пра рэалізацыю праекта расказвае настаўнік Дар'юш ГАРАДЭЦКІ.

Праект „Гісторыя запісаная карцінамі" скіраваны да ўсіх узроставых груп, якія пражываюць на тэрыторыі Арлянскай гміны, а асабліва ў вёсках Маліннікі, Шарні, Градалі і Рыгораўцы. Тут ставім за мэту ангажаванне моладзі, якая ўжо ўдзельнічала ў частцы стацыянарных майстар-класаў, а зараз, у экспедыцыйных занятках, хочам прыцягнуць да ўдзелу таксама і старэйшае насельніцтва гэтых мясцовасцей.

У чым сутнасць нашай задачы? Культурны ландшафт нашага рэгіёна, гэтак жа як і культуру ў цэласці, можам разглядаць у двух пластах: матэрыяльным і нематэрыяльным. Матэрыяльны аспект уключае відочныя элементы прасторы, сфармаванай дзейнасцю чалавека ў дадзеным асяроддзі. Нематэрыяльны пласт уключае традыцыі, звычаі, вераванні, памяць пра гістарычныя падзеі і т.п. На абодва аспекты звяртаем у нашым праекце асаблівую ўвагу. Хочам замацоўваць і прасоўваць культурную тоеснасць Арлянскай гміны, міжкультурны дыялог, прадстаўляць культуру мясцоваму насельніцтву.

Праект прадбачвае апытанне мясцовага насельніцтва, сабранне здымкаў і дакументаў ды запісанне расказаў пра падзеі ў вёсцы Маліннікі. Вытрымкі з сабраных фондаў запрэзентуем у ходзе падсумавання праекта ў лістападзе ў Маліннiках.

Чаму маладыя людзі? Бо яны часта загубленыя ў сучасным віртуальным свеце, у якім штораз больш прысутныя, у штораз большым адчужэнні грамадскай ізаляванасці. Да таго ж у іх вялізны патэнцыял ведаў і творчага запалу, якія хочам развіваць і адпаведна накіроўваць.

Чаму старэйшыя людзі? Бо ў многіх з іх такія веды, якіх не знойдзем у ніякіх кнігах ці газетах. І тут яны будуць мець нагоду перадаць тыя веды маладым.

Чаму Маліннікі? У 2001 годзе была там закрыта школа, пасля непрацяглага часу спыніла працу геэсаўская крама. Апошнім месцам сустрэч было пажарнае дэпо, але там пуста апрача пахавальных гасцін. Маладых у вёсцы амаль няма — законы дэмаграфіі няўмольныя. Вёска, так як і ўсе навакольныя, старэе, адыходзяць сведкі гісторыі, астаюцца пасля іх архіваліі, дакументы, фатаграфіі — творы чалавечай дзейнасці, якія найчасцей у выніку несвядомасці спадкаемцаў выкідаюцца і знішчаюцца. Фатаграфіі перастаюць гаварыць. Можа тыя дакументы мала важныя з пункту гледжання гісторыі краіны, аднак вельмі важныя ў аспекце мясцовай гісторыі. Мы прыйшлі да высновы, што настала неадкладная патрэба іх здабывання, лічбавізацыі і архівавання.

Цэлы праект рэалізуе фонд EDM (Edukacja, Digitalizacja, Marzenia). Бенефіцыянтамі з'яўляюцца гімназісты. Гэты праект фонд апрацаваў, прадставіў да конкурсу, ладжанага Маршалкоўскай управай, і атрымаў дафінансаванне на рэалізацыю. Праект будзе завершаны ў лістападзе.

Фонд дзейнічае год, заснавалі яго настаўніца Альжбета Цюлькевіч, солтыс Марк Хмялеўскі і настаўнік Дар'юш Гарадэцкі; ужо сабрана каля чатырох тысяч здымкаў.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**



# Лячэбныя алеі Ані і Пятра

**Часта падчас вырабу алею, як у колішняй хаце, пачуеце песні, спяваныя Аннай і Пятром.**

**Усё пачалося з пошуку лякарства на цукровы дыябет, якім пакутуе Анна. Аказалася, што такім народным прэпаратам з'яўляецца алей з рыжыку (ільнянкі), які можна набыць у мануфактурах. Пятро, чытаючы ў інтэрнэце інфармацыю пра алей, даведаўся і пра спосаб яго вытворчасці. Абое дайшлі да вываду, што гэта выдатная задума для рэгіянальнага бізнесу.**





З рапсу, растаропшы (астрапэсту), рыжыку, ільну — алеі з аляярні Ані Карэткі і Пятра Скепкі захапляюць водарам і смакам. Адціскаю халодным метадам, даволі моцна адрозніваюцца ад крамных — маюць інтэнсіўны водар і характэрны смак, якіх шукаць дарма ў іншых алеях. Гэта выраб малога прадпрыемства вядомых музыкаў, а дадатковай іх перавагай з'яўляецца тое, што яны вырабляюцца з зерня вырошчванага ўладальнікамі.



— Як памятаю, мая бабуля заўсёды лячыла нас традыцыйным спосабам, натуральна. Аднойчы, калі ў мяне былі праблемы са страўнікам, бабуля дала мне ільняны алей і чорныя ягады, і гэта спрацавала. Сягоння людзі таксама шукаюць натуральныя метады лячэння, — кажа Пятро. — Я шмат чытаў пра выраб алею і павольна, адольваючы памылкі, мы ўласнаручна дайшлі да таго, што робім смачныя і карысныя алеі.

Спачатку трэба было падрыхтаваць памяшканне, згоднае з нормамі. Гэта заняло ім крыху часу. Трэба было пабудаваць печ, каб усярэдзіне не было надта холадна. Калі печ, дык вядома — тутэйшая, з цёмна-зялёнай кафлі. Вытворчасць пачалася ў сакавіку гэтага года. Цяпер на паліцах стаяць мяшкі з зернем, падрыхтаваным для ціснення.

— Не ціснем алею на запас, — тлумачыць Анна Карэтка. — Ціснем невялікую колькасць, каб алей не састарэўся, дзякуючы гэтаму гарантуем, што кліент атрымлівае тавар лепшай якасці

Насенне, з якога Ганна і Пятро ціснуць свае алеі — з іх уласных пасеваў, якія раскіданыя па розных частках Гайнаўскага павета — між іншым вакол Гайнаўкі, у Пасечніках. Як растлумачыў Пятро, лён не можа быць пасеяны год за годам на тым жа полі, таму шукаюць новых месцаў і арандуюць палеткі ды пусткі ад сялян. Ціску чакае рапс з сёлетняга ўраджаю, уборкі чакаюць лён, рыжык, растаропша і чарнушка-чорны кмен.

Насенне, сабранае з поля чысціцца і чакае яно ў мяшках. Узоры з кожнага збору правяраюцца на наяўнасць таксічных злучэнняў і цяжкіх металаў, так што вытворца, як і атрымальнік могуць быць упэўнены, што алей з'яўляецца здаровым і поўнасцю каштоўным.

— Не ціснем у кантэйнеры памерам больш за тры літры, — тлумачыць Пятро. — Запоўнены даверху шкляны слоік закручваем і чакаем, пакуль не асядзе натуральным чынам асадак. Толькі чысты алей, праз прыблізна два дні, разліваем у бутэлькі.

З кілаграма рапсу выціскаецца прыкладна 250 мл алею, з лёну крыху менш. Цяжэй з чарнушкай, з якой з чатырох кілаграмаў атрымліваецца крыху больш за паўлітра, а астатняе гэта асадак. Але смак алею з чарнушкі ўзнагароджвае ўсё — алей выразны і пякучы. Як заўсёды ў пачатку з'яўляюцца праблемы — то не хапае цёмных шкляных бутэлек, якіх немагчыма набыць у Польшчы і неабходна прывезці з Італіі, то зноў нядобрая папера на этыкеткі. Але Анна і Пятро з аптымізмам глядзяць у будучыню, не збіваюць іх цяжкасці.

— Усе малыя алейні спачатку маюць праблемы, — кажа Пятро. — Цяжка адразу ж пераканаць чалавека, які ўсё сваё жыццё купляў звычайны рапсавы або сланечнікавы алей у краме, што гэтыя алеі добрыя. Яны па паху і смаку вельмі адрозніваюцца ад крамных, маюць таксама пажыўная і аздараўляльныя эфекты, якіх тыя не маюць. Кліент павінен пакаштаваць раз-другі, і выбярэ сам.

Анна і Пятро працуюць прафесійна і не заўсёды ў іх ёсць час для адэкватнага прасоўвання алеяў ці для таго, каб паставіць свой стэнд у сераду на гайнаўскім рыначку. Звычайна бяруць сваю прадукцыю на фэсты і кірмашы, на якіх выступае іх народны калектыў «Нараўчанкі». Музыка і народная песня — захапленне Анны і Пятра. Пятро Скепка захоплены рэгіянальным фальклорам. На працягу многіх гадоў прабуе выратаваць ад забыцця песні і мелодыі, якія збірае ў выглядзе запісаў. Пятро быў кіраўніком легендарнай каманды «Дубіны», дзесяцігоддзі вядзе іншыя калектывы, падыгрывае ім на гармоніку. Меў сотні канцэртаў, падчас якіх меў магчымасць сабраць забытыя абрады і мелодыі:

— Езджу па вёсках і збіраю запісы. Размаўляю з людзьмі, якія ведаюць старыя абрады і песні. У мяне ёсць некалькі такіх запісаў, дзе чуваць голас людзей ужо памерлых. Вось іх няма, а запіс — увекавечаны. Калі ў мяне будзе крыху больш часу, апрацую гэтыя запісы, і хацеў бы іх выдаць.

Анна Карэтка, акрамя спеваў займаецца вышыўкай. Асабіста вышыла кашулі для сябе і некалькіх сяброўак з калектыву. Усё гэта пачалося з абруса, які ляжаў з няскончанай вышыўкай яе мамы:

— Мая мама не паспела яго вышыць, пачала толькі кветку і лісток. Пазней мая сяброўка, мастачка з Украіны, нарысавала мне пасярэдзіне абруса падобныя ўзоры, і планавала я іх вышыць. Так палатно ляжала некалькі гадоў, аж я заўважыла, што малюнкі ўжо сталі выцвітаць. Дык узялася і кончыла гэты абрус! Мабыць, я не занадта прафесійна вышываю, але гэта дае мне вялікае задавальненне. Узоры, вядома, рэгіянальныя, узятыя са старадаўняй вышыўкі нашых бабуль і матуль.

У гайнаўскай аляярні па вуліцы Тарговай 47 вырабляюцца алеі з лёну, рыжыка, чарнушкі, растаропшы, а таксама са сланечніку і рапсу, на якіх можна таксама смажыць і пячы. Смачна есці і лекавацца!

**(лук)**

# Беларуская мова — славянскае эсперанта



**Тамаш Хмелік нарадзіўся ў 1957 годзе ў Свідніку дзе і пражывае. Перакладчык і настаўнік, на мову эсперанта пераклаў амаль 200 кніг. Палова з іх выйшла з друку. Тлумачыць з нямецкай, рускай, англійскай, ідыш, іспанскай і, вядома ж, з польскай моў. Выбірае тых аўтараў і тыя кнігі, якія нечым яго захапілі. Сярод іх Бруна Шульц, Ісаак Лейб Пэрэц, Гюнтэр Грас, увесь Рышард Капусцінскі, Баляслаў Прус, Віслава Шымборская і наш падляшскі пісьменнік Сакрат Яновіч. Тамаш Хмелік з'яўляецца віцэ-старшынёю Сусветнай акадэміі літаратуры эсперанта.**

**— Удалося. Пасля трыццаці гадоў ад перакладу «Лялька» Баляслава Пруса ў канцы выйшла з друку.**

— Усё дзякуючы выпадковасці, нечакана знайшліся грошы. Але не грошы былі найважнейшыя. Найбольшай складанасцю ў перакладах на мову эсперанта з'яўляецца «першае чытанне». Калі я перакладаў Шымборскую, першым чытачом быў перакладчык Еўрапейскага парламента — венгр. Ён прысвяціў на чытанне амаль паўтара года. Адкрываў у тым часе фантастычныя рэчы. Мы ўжо пачалі смяяцца, што хаця ён венгр, а польскую мову ведае лепш чым мы. Проста ён карыстаўся перакладамі Шымборскай на іспанскую, венгерскую, італьянскую, французскую мовы, бо гэтыя мовы ён ведае. На такіх асобах спачывае вялікая адказнасць і цяжка такую асобу знайсці. Таму паўтару: грошы раней ці пазней знойдуцца, але такі паліглот не заўсёды.

**— Ваш пераклад «Лялькі» чакаў 30 гадоў і можна сказаць, што пабачыў свет дзякуючы самому Людвіку Заменгофу. Гэтая публікацыя фінансуецца горадам Беласток і пачынае падрыхтоўку да святкавання стагоддзя з дня смерці стваральніка эсперанта, які будзем адзначаць у наступным годзе. Гэта была для Вас нечаканасць?**

— Так, гэта быў сюрпрыз. Цешуся, што знайшліся людзі, якія хацелі выдаць пераклад «Лялькі». Я сам ніколі гэтага не зрабіў бы. Маё супрацоўніцтва з Беластокам пачалося дзякуючы былому дырэктару «Падляшскай ксёнжніцы» Яну Леанчуку. Ён меў цікавыя думкі і нас, эсперантыстаў, узяў пад свае крылы. Новая дырэктар хоча далей супрацоўнічаць з эсперантыстамі і гэта добра, што ёсць плаўнае развіццё. Эсперанта ў Беластоку маецца добра.

**— А што ў перакладзе «Лялькі» Баляслава Пруса стварала найбольш праблем?**

— Мова. Аўтар прадстаўляе ўсе сацыяльныя праслойкі і кожная з іх гаворыць на сваёй мове. І цяжка гэта перадаць у такі спосаб, каб чытач ведаў, што ў іх ёсць моўныя адрозненні. Інакш у Пруса гаворыць арыстакрат, інакш яўрэй, яшчэ інакш прадавец у краме...

**— Можна сказаць, што Вы далі «Лялькі» Баляслава Пруса новае жыццё.**

— Я лічу, што «Лялька» і Прус далі мне новае жыццё. Цяпер я селебрыці (*смех*). Але прыемна, што хтосьці добра ўспрымае маю працу. Цешуся, што кніжка пойдзе да людзей, будзе чытаная. Шымборская была такім доказам, што кнігі на мове эсперанта ідуць на ўвесь свет. Людзі пішуць да мяне з розных куткоў: Мадагаскар, Перу, Японія...

**— У 2014 годзе ў час Фестывалю славянскай паэзіі ў Варшаве адбылася прэзентацыя кнігі «Revenoj al Krynki». Вы пераклалі на мову эсперанта выбраныя творы нашага падляшскага пісьменніка Сакрата Яновіча.**

— Я крыху пакрыўдзіўся на Сакрата. Памятаю, калі званіў яму і сказаў: «Сакрат, хачу табе гэтую кніжку зрабіць». Ён адказаў: «А я табе абяцаю, што дажыву!». На жаль не дажыў. Zrobił mnie w konia. Але я яму выбачаю (*смех*). Гэта было цудоўнае супрацоўніцтва. Інтэлектуальнае. Сам кантакт з Сакратам, размовы...

**— А як Вам перакладалася творчасць Яновіча? Для перакладу яна складаная?**

— Беларуская мова была для мяне своеасаблівым адкрыццём. Я раней займаўся перакладамі з рускай мовы. Грыгорый Кановіч, якому на мову эсперанта я пераклаў усе кніжкі, выказаў калісь вельмі мудрую думку. Ён параўнаў пераклады да дрэў. Кожнае асаблівае: адно тонкае, другое тоўстае. З вялікімі лістамі, з маленькімі... але ўсе яны спяваюць адну песню — песню ветру. І калі мне ўдаецца на мове эсперанта перадаць тую песню, гэта сведчыць аб тым, што я зрабіў добрую работу. І ў мяне не было праблем са зразуменнем беларускай мовы. На маю думку, беларуская мова — гэта свайго роду славянскае эсперанта. Я ўлюбіўся ў беларускую літаратуру. Маю намер перакладаць Уладзіміра Караткевіча. А з падляшскіх беларускіх аўтараў хачу на мове эсперанта выдаць кнігу Міры Лукшы.

**— А ці дзейнічае таварыства эсперантыстаў на Беларусі? Існую нейкая арганізацыя падобная на тую беластоцкую?**

— Там ёсць праблема. Там дзейнічаюць паасобныя эсперантысты і мне ўдалося з некаторымі пазнаёміцца. Аднак няма такога аб'яднання. Я прабую трымаць кантакт з тымі нешматлікімі беларускімі эсперантыстамі. Адзін нават абяцаў перадаць мне нейкія кантакты да сучасных беларускіх пісьменнікаў. Найбольш мяне цікавяць маладыя творцы. Лічу, што пераклады на эсперанта гэта добрая прамоцыя беларускай творчасці.

**— Колькі беларускіх кніжак Вы ўжо пераклалі на мову эсперанта?**

— «Вяртанне ў Крынкі» гэта мая першая кніга, якую пераклаў я з беларускай мовы.

**— А што для самога аўтара абазначае вось такі пераклад на мову эсперанта? Вы згадалі, што гэта таксама спосаб прамоцыі. Як выглядае сітуацыя з патэнцыйным чытачом, паколькі эсперанта гэта таксама нішавая мова.**

— Пасля перакладу кожная кніга ідзе сваім шляхам. Адзін з фантастычных албанскіх пісьменнікаў, якога я таксама перакладаю, сказаў, што гэта магчымасць, каб кніга, напісаная на «малой» албанскай мове, магла быць чытаная ва ўсім свеце. І, на самой справе, так сапраўды ёсць.

**— Чым Вас спакусіла мова эсперанта?**

— Ідэяй братэрства, узаемаразумення паміж рэлігійнымі рознагалоссямі, расавымі ці культурнымі адрозненнямі. Дзеля гэтага Заменгоф стварыў мову эсперанта, каб аб'яднаць людзей у словах, якія павінны былі быць універсальнымі і пазачасавымі. Але аказваецца, што сапраўды трэба любіць эсперанта, каб ім карыстацца.

* * *

У Беларусі найбольшы ўздым руху эсперантыстаў прыпаў на 1920-я гады. Пазней шмат эсперантыстаў загінула ад сталінскіх рэпрэсій. Адрадзіўся рух эсперанта на Беларусі, як і ва ўсім СССР, напрыканцы 1950-х гадоў. Сярод вядомых беларускіх эсперантыстаў — пісьменнікі Янка Маўр і Сяргей Новік-Пяюн. Таксама сярод ніўскіх карэспандэнтаў былі эсперантысты. Баляслаў Манкевіч, які ў 1958 годзе быў абраны генеральным сакратаром Польскага саюза эсперантыстаў і рэдактарам штомесячніка «Pola Esperantisto» ці Рышард Бутайла — супрацоўнік эсперанцкай рэдакцыі Польскага радыё Гданьск.

Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ

# Дэмаграфія Супрасльскай гміны

Зараз у Супрасльскай гміне Беластоцкага павета пражываюць 14 532 чалавекі ў 29 мясцовасцях. Займае яна плошчу ў 189 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насельніцтва 76 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 106 жанчын. Найбольшыя мясцовасці: горад Супрасль налічвае 4 559 асоб, Грабаўка — 3 385, Засцянкі — 2 460 і Сабалева — 1 336.

Да вялікіх вёсак належаць Агароднічкі — 774 чалавекі, Каракулі — 551, Саўляны — 393, Цяснэ — 335 і Генрыкова — 330. Сярод малых вёсачак 72 жыхары налічвае Целічанка і 40 Сакалда ды да 30 асоб налічваюць сямнаццаць мясцовасцей, у тым ліку Падлазні — 23 асобы, Копная Гара і Казлы-Калёнія — у кожнай па 19 асоб, Палсакалда — 18, Красны Лес — 17, Суражкова — 16, Варонічы — 15 ды Заціша і Маёўка — па 14.

Перасталі існаваць тры мясцовасці: Пячонка-Калёнія, Зялёна і Садовы Сток-Калёнія. Усяго дзве асобы пражываюць у Здроях-Калёніі і адна ў Пад'ялоўцы.

Ад 2010 года да канца жніўня гэтага года ў Супрасльскай гміне прыбылі 1 224 чалавекі, а толькі ў мінулым годзе 274. У мінулым годзе колькасць жыхароў у Грабаўцы павялічылася ажно на 117 чалавек, у Засцянках — на 60, у Сабалеве — на 37, у Агароднічках — на 23 і ў Саўлянах — на 20.

У 2015 годзе ў горадзе Супрасль і ў вясковых мясцовасцях Супрасльскай гміны нарадзілася 156 дзяцей ды памерлі 117 асоб. «Залатое вяселле» згуляла трыццаць пажылых шлюбных пар. Яны ў пары пражылі з сабой 50 гадоў.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Восень — паэтычная пара

Так ужо ў прыродзе бывае, што пасля гарачага сонечнага лета завітвае да нас восень. Самая паэтычная пара, калі з дрэў падае рознакаляровае лісце, быццам словы вершаў. У паветры кружыць бабіна лета, нібыта метафары паэзіі. Доўгія восеньскія вечары маюць свой спакой і добры смак гарачай гарбаты, як добрая кніга, якую менавіта восенню найлепш чытаецца. Восенню людзі неяк не спяшаюцца, затрымліваюцца хоць на хвіліну дыхнуць халаднаватым паветрам. Восенню часта бываюць і сонечныя дні, быццам апошні бляск вераснёвага лета. Пра восень прыгожа пісаў Кузьма Чорны ў апавяданні «Вераснёвыя ночы». Да апошняга бляску лета параўнаў ён галоўную гераіню апавядання — панну Агату. Восенню вельмі добра слухаюцца кампакт-дыскі Дзімы Чабака, Георге Замфіра, Рычарда Клайдермана, групы «Mystirica» ці беларускіх бардаў — Андрэя Мельнікава, Алеся Камоцкага ці Эдуарда Акуліна, альбомы «Stare Dobre Małżeństwo» ці альбомы барда-акцёра Леха Дыбліка, інструментальныя альбомы Дзімы Малікова, альбом Севярына Краеўскага «Lubię ten smutek» або альбомы групы «WZ Аркестр» — «Паравіны году», «Паравоз кахання» ці «Сонца і месяц».

Музыка восенню ў хатнім зацішшы суцішае нашу душу. Восенню добра чытаецца паэзія Ежы Гарасымовіча, Надзеі Артымовіч ці Рафала Ваячка. Асабліва верш Надзеі Артымовіч «Паэты паміраюць тады...» ў выкананні Алега Кабзара мне роўна блізкі, як і яго карціны, што адлюстроўваюць Бельск, Міхайлаўскую царкву, святло купалаў царквы на фоне сіняга вечара. Так як карціны Марка Шагала або Маргарыты Дмітрук. І гэта мая восень. Асабістыя асацыяцыі слова, музыкі і вобразу, спалучэнне пачуццяў зроку і слыху. Восень таксама пахне лесам, паркам, спелымі пладамі нашай падляшскай вёскі.

Юрка БУЙНЮК


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Як пачынаюць школьны год за мяжой?

1 верасня мы сустрэлі ў старажытнай мясціне Нобель ва Украіне. Мясцовасць распаложана на памежжы Украіны і Беларусі. Навокал месца чароўнае возера Нобель, праз якое плыве рака Прыпяць. Далей знаходзяцца непраходныя балоты, у якіх водзяцца сотні відаў дзікага птаства. Лебедзі, белыя і шэрыя чаплі, жураўлі, буслы, дзікія гусі, цецерукі, розныя віды качак — тут лётаюць хмарамі.

Ужо з самога ранку вуліца Цэнтральная напамінала агарод з краскамі. Усе ішлі ў школу — дзеці, бацькі, настаўнікі, госці. Нобельская школа невялікая — тут 70 вучняў і 19 настаўнікаў, усе ведаюць усіх па імені, прозвішчах і мянушках. У пачатку школьнага года дзеткі дораць букеты настаўнікам. Ды і яны самі апрануліся ў каляровыя вышыванкі ды напаміналі жывыя кветкі...

Пачалося з гімна Украіны, які сустрэлі на зважай і з правай рукой на сэрцы. Пасля пайшла мастацкая праграма. Амаль уся ўвага была накіравана ў бок сямі першакласнікаў. Яны далі прысягу быць сумленнымі і дбайнымі вучнямі. Далей сталі «заклікаць у школу». Гэты абрад здзейснілі двое вучняў, стройны дзевяцікласнік і засаромленая першакласніца. Яны ўзяліся за ручкі ды абышлі са званком два разы школьны пляц, ды пазванілі «на ўрок». Такі дуэт меў паспрыяць сяброўству і пераемнасці паміж пакаленнямі. А каб тая пераемнасць яшчэ больш спрацавала, першакласнікі і вучні дзявятых класаў абмяняліся адмысловымі падарункамі. Малечы атрымалі ад старэйшых сяброў цацкі, шарыкі і школьныя прылады. Старэйшыя, у сваю чаргу, атрымалі ў падарунку сумкі, касметыку, вышываныя паяскі.

Перад гэтым, як вучні і настаўнікі разышліся па класах, дырэктар Надзея Праневіч паведаміла пра змены, якія чакаюць у новым навучальным годзе. Для вучняў малодшых класаў не будуць ставіць ацэнак, то-бок, іх ацэнкі і поспехі атрымаюць апісальную форму.

Фота Ганны Кандрацюк

У гэтым годзе сшыткі будуць правярацца не чырвонай, а зялёнай аўтаручкай.

Больш увагі будзе адведзена навучанню англійскай і нямецкай мовам.

Важнае месца ў школе займае музей, якім апякуецца настаўніца Галіна Багдановіч. Жыхары Нобеля ганарацца славутым ураджэнцам. Мова пра беларускага паэта Сяргея Грахоўскага. Сам паэт наведаў школу ў 1980-я гады. Яго візіт успрымаюць як жывую легенду. У музеі захоўваюць здымкі і лісты на беларускай мове. У гонар Сяргея Грахоўскага названая адна вуліца, а на будынку клуба віднее яго мемарыяльная табліца.

Сувязі з Беларуссю тут невыпадковыя. Старажылы па сённяшні дзень размаўляюць на мове, якая ў палове беларуская і ўкраінская. Амаль кожная сям'я мае тут сваякоў у беларускім Пінску або Брэсце.

У час урачыстай лінейкі мяне папрасілі ўзяць слова. Дык я расказала пра наш падляшскі куточак, нашу мову і сяброў «Зоркі», за што атрымала два прыгожыя букеты, апладысменты і сардэчныя ўсмешкі сяброў.

Для мяне самой файнай справай было тое, што ў Нобелі, як па ўсім Палессі, людзі разумелі нашу мову. Апошні прыклад хай прамовіць у вашу карысць — карыстайцеся кожнай нагодай, каб падвучыцца роднай мове, не дазвольце ёй згінуць. Яна завядзе вас у прыгожыя месцы, адкрые дзверы на незвычайныя знаёмствы і новых сяброў. Так, менавіта, здарылася са мной у Нобелі.

ЗОРКА

## Вершы Віктара Шведа



### Шчаслівая сямейка

— Цешылася бабка гэтак,
Як прыехаў я на лета.
Цешылася больш, вядома,
Калі ад'язджаў дадому.

Сустрэў я бацькоў вясёлых,
Адыходзячы да школы.
Цешацца яны, што быццам,
Будзе добра сын вучыцца.

### Прыдзірлівы муж

Бацька даведацца хоча
— Маем блакітныя вочы,
А наш сынок
— справа дзіўная,
Мае вочы піўныя.

— Якое ж, скажы, тут дзіва,
Хлябтаеш заўсёды піва
І беспадстаўна хочаш
Каб не было піўных вочаў.

# 1 верасня ў Чыжах

Дзень 1 верасня Комплекс школ у Чыжах адзначыў радасна, таму што ўсе маладыя чыжавяне хочуць вучыцца беларускай мове.

На адмысловым мерапрыемстве перад будынкам школы былі прысутны бацькі, настаўнікі і госці. Павагі надавалі святочныя касцюмы хлопцаў і элегантныя сукенкі дзяўчат. Усіх ветліва прывітаў дырэктар школы. У час размоў малыя чыжавяне прызнаваліся, што ўсё-такі сумавалі ўжо крыху па сваіх сябрах па школьнай парце. Расказвалі таксама аб падручніках, заплечніках і ўсіх новенькіх прыладах, якія напэўна заахвочваюць да яшчэ больш руплівай вучобы.

Важнай задачай, якую атрымалі дзеткі, было задумацца над тым, чаго хочуць навучыцца ў новым школьным годзе. Калі гаворка пра заняткі беларускай мовы, адказы былі падобныя. Кожны хоча лепш пісаць, чытаць і размаўляць па-беларуску. Таксама дзеткі лічаць на тое, што навучацца новых вершаў і песень, з якімі ахвотна будуць выступаць на шматлікіх конкурсах.

Хаця моладзь два месяцы прабывала на заслужаным адпачынку, на старонках «Зоркі» ўвесь час з'яўляліся артыкулы вучняў з розных падляшскіх школ. Спадзяемся, што і вы схочаце падзяліцца сваімі ўражаннямі з летніх канікул з чытачамі «Зоркі»!

Вучням жадаем поспехаў і плённай працы ў новым навучальным годзе, а настаўнікам і бацькам — цярплівасці і памяркоўнасці.

Уршуля ШУБЗДА

## УВАГА КОНКУРС!

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 18 верасня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## № 37-16

**Ветру, сцюжы не баіцца,**
**Мае цёплыя спадніцы,**
**Гожая, здаровая,**
**Уся белагаловая,**
**На гародзе стала пуста,**
**Ды расце адна**
**К......**

**(паводле Ларысы Геніюш)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 34: апенькі. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага і Сара Скаўронская з Беластока. Віншуем!**

# Казка пра каханне і дзяўчынку

Даўным-даўно за гарамі, за лясамі жыла прыгажуня Іза. Яна жыла ў малой хатцы з маці і сястрыцай Аняй. Аня, не менш прыгожая за сястру, вельмі любіла сям'ю. Да той пары, пакуль абедзве дзяўчаты закахаліся ў аднаго хлопца. Яго звалі Міхась. Ён быў адважны і стройны як рыцар. Аня адчувала, што Міхась загледжаны ў яе сястрыцу. Яе мучыла зайздрасць. Аднойчы пайшла яна да старой ведзьмы і папрасіла, каб тая штосьць дрэннага зрабіла яе сястры. Чараўніца падумала і паабяцала, што Іза ўжо не будзе мяшаць ёй у каханні.

Калі Аня вярнулася дамоў, яна ўбачыла надта сумную сястру. Дзяўчына сохла ў вачах, а праз некалькі тыдняў стала палявой валошкай.

Усе шукалі яе, не ведалі, што здарылася.

Настала Купалле. Калі моладзь гуляла ля вогнішча, раптам узарваўся вецер. У адным вянку красавалася зачараваная кветка-валошка. Вянок нехта кінуў на ваду і паплыў ён з цячэннем. Тым часам прыгнечаны Міхась не мог знайсці сабе месца. Ён адышоў ад кампаніі і сумна глядзеў на вянкі. Успамінаў Ізу. Пасля ўбачыў вянок з валошкай, які зачапіўся за вербалоз. Міхась узяў яго ў рукі і прыліп губамі да кветкі. Яму чамусьці вельмі хацелася пацалаваць валошку. А тады кветка змянілася ў дзяўчыну-прыгажуню!

Міхась адразу пазнаў сваю Ізу. Аня зразумела сваю паразу. Яна ведала, што Міхась кахае яе сястру і нават чары не ў змозе іх раздзяліць. Яна доўга цярпела, а пасля змірылася з лёсам.

Зузя **КАРДЗЮКЕВІЧ**,
«Парнасік».

Зузя Кардзюкевіч і Оля Салавянюк

## Апытанне сярод удзельнікаў Сустрэч «Зоркі»

1. Ці дома размаўляеце на беларускай мове?

2. Ці ты быў у Беларусі?

3. Ці падпісваешся на «Ніву»?

4. Ці беларуская мова для цябе родная?

5. Ці пішаш у «Зорку»?

6. Ці ў наступным годзе хочаш зноў прыехаць на Сустрэчы «Зоркі»?

Апытальнік падрыхтавалі і ўдзельнікаў апыталі **Агнешка Зданоўская**, **Эва Іванюк**, **Крыстыян Паскробка** з рэдакцыі «Зорным вачыма».

*Юля Бяганская,*
*„Зорны шлях",*
*І клас белліцэя ў Гайнаўцы*

## *Надзея*

*Надзея памірае апошняй*

*Але ў мяне няма надзеі*
*Надзеі на лепшае жыццё*
*Надзеі на каханне*
*Надзеі на Цябе...*

*А яна ў Цябе ёсць*
*Ці патрапіш яшчэ марыць*
*Ці ўмееш выйсці з хаты*
*З паднятай галавой*

*Надзея памірае апошняй*

## Польска-беларуская крыжаванка № 37-16




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 33:**
Сага, хмара, зайчык, войт, шоў, мат, на, балерына, ха. Назоў, рай, сайт, ар, грыва, котка.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Сара Скаўронская** з Беластока і **Вікторыя Гаць** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

# Незвычайная сустрэча

**Жыве прошлым. Дзесяцігоддзямі пляце павуціну сваёй радаслоўнай — са сцяжын, якімі вандруюць туды і назад незавершаныя справы з далёкага мінулага. Выбачаецца калісь невыбачанае, вяртаецца калісь скрадзенае.**


Ян Хлябіч, Карына, жонка Хлябіча, суседка

Генеалагічнае дрэва Карыны Барысенка па мамінай лініі бярэ свой пачатак у Нетупе і Юзафове — маленькіх, беднаватых вёсачках Крынскай гміны Сакольскага павета і Гарадоцкай гміны Беластоцкага павета Беластоцкага ваяводства далёкай, чужой Польшчы. Калі выязджалі з Нетупы ў Савецкі Саюз, Яўгеніі — маці Карыны — было ўсяго толькі два годзікі. Пра жыццё сям'і да пераезду ведалі толькі бабуля і Зіна — на дзесяць гадоў старэйшая маміна сястра з Мінска. Бабулі ўжо няма, памерла ў Слоніме ў 1982 годзе. Ніколі не шкадавала, што пакінула Польшчу. Словам не ўзгадвала. А Зіна, калі яе запытаць, плача, нічога не гаворыць, не хоча ўспамінаць.

Дваццацігадовая Яўгенія адважылася папрасіць маму з'ездзіць у Польшчу, на месца свайго нараджэння. Са Слоніма ў Нетупу ўсяго, мабыць, не больш чым семдзесят кіламетраў.

— Ніколі, нават не прасі, — пачула ў адказ.

Угаварвала і сваю старэйшую сястру Зіну. Тая пагадзілася паглядзець Нетупу, але толькі з акна самалёта і каб не прызямляцца. Чаму? Засталося гэта вялікай таямніцай, якую раскрыла толькі дачка Яўгеніі — Карына.

Васьмігадовая Карына жыла тады ў Харкаве. З далёкага Слоніма прыехала ў госці бабуля Анна Дарашкевіч з дому Самойлік, народжаная ў Юзафове. Па тэлебачанні паказвалі якраз «Паланэз Агінскага». Анна пасадзіла сваіх унучак на канапе перад тэлевізарам. Глядзела ў цішыні. Тады, мабыць, успамінала Польшчу. Часам распавядала Карыне пра нялёгкае бежанства, пра вучобу ў казанскай гімназіі і экзатычны Ташкент. Вярнуўшыся з бежанства, бацька Анны — працавіты гаспадар — стаў солтысам у родным Юзафове. Яго жонка займалася акушэрствам і лячыла зёлкамі. Брат жонкі працаваў фельчарам. Не галадалі, але старэйшы брат Анны, Аляксандр, не змог звыкнуць да новай дзяржавы. Польшча была яму чужой і варожай. Уцёк назад у Расею. Прапаў без вестак.

У Нетупе Карына ўпершыню. Семдзесят гадоў пасля пераезду сям'і ў СССР. Два тыдні раней у Беласток завітала дачка цёці Галіны з Мінска — мамінай сястры. Прыехала на вяселле дачкі свайго мужа. Пры нагодзе, вяртаючыся, заглянула ў Нетупу. У Грыбоўшчыну на магілу дзядоў ужо не дайшла. Цягам двух месяцаў да выезду Карыне снілася, што на чыгунку спазняецца, што пашпарт забывае. Вельмі расхвалявалася, калі атрымала польскую візу. Паўтарала сабе, што ўсё будзе добра, што пры цэлай польскай русафобіі напэўна, так як і ва ўсім свеце, жывуць там і добрыя людзі. Рэчаіснасць перарасла ўсе спадзяванні. Яе мара збылася. А можа ўсё гэта ёй толькі сніцца?..

На памятку ад сустрэчы ў царкве ў Востраве, у якой хрысціліся яе дзяды і прадзеды, падарунак ад бацюшкі Аляксандра Клімука — іконка Казанскай Божай Маці.

Карына і Света — сёстры-блізнючкі нарадзіліся якраз на свята Казанскай іконы, 4 лістапада 1965 года ў недалёкім Слоніме.

Тут пачалося новае жыццё бабулі Анны. Без мужа Аляксандра Дарашкевіча, якога ў сакавіку 1942 года забілі немцы замест сваяка Яна Дарашкевіча.

— Схапілі ўсіх, якія спрыялі саветам, — кажа Ян Хлябіч, ураджэнец Нетупы. — Прывялі ў нетупскую школу, збілі рызінай па задніцы і адпусцілі дахаты. Неўзабаве зноў па іх вярнуліся.

У міжчасе перапалоханая жонка Яна Дарашкевіча малаком і гарэлкай папраўляла не самыя лепшыя адносіны паміж яе мужам і солтысам. Немцаў да абвінавачаных прыводзіла менавіта солтысава дачка. Замест збітага раней Яна ўказала на ні ў чым вінаватага Аляксандра — дзеда Карыны, хрышчонага спадара Хлябіча. Трох з іх застрэлілі, у тым ліку дзеда Карыны. Двух уцякло альбо, што больш праўдападобнае, адпусцілі іх дахаты. Выратаваны самагонкай Ян і яго сям'я шчасліва пераехалі ў СССР.


У Нетупе

На вастраўскую плябанію сходзяцца мясцовыя і выхадцы. Чакае іх тут генеалог Марк Карнілюк разам са спецыяльнай госцяй Карынай Барысенка. Успамінаюць падзеі Другой сусветнай вайны, чытаюць старыя царкоўныя дакументы, прывезеныя Карынай з расейскіх архіваў. Сярод прысутных — нашчадак Яна Дарашкевіча. Чалавек «паспеху», з «вышэйшых сфер» і добра ў жыцці ўладкаваны, добра апрануты. У сабраных вяскоўцаў выклікае толькі павагу і захапленне.

— Мы — сваякі! — быццам пра выйгрыш у спартлато інфармуе Карыну нашчадак, затым падыходзіць да яе.

Карына паслухмяна падымаецца з крэсла. Застывае ў абдымках новапазнанага сваяка, нашчадка таго, хто выдаў на смерць яе дзеда. У спалоханых вачах жанчыны паяўляюцца слёзы. На хвіліну ўвасабляецца ў здраджанага дзеда, якога цалуе сам здраднік. Нешта ў сэрцы Карыны падказвае даравань гэты юдаў пацалунак і выратаваць з пякельнага агню душу нягодніка.

Яўгенія — маці Карыны — ніколі не бачыла свайго бацькі. Нарадзілася месяц пасля яго смерці. У наступным 1943 годзе гіне бацька Анны. Нехта бачыў яго, едучага вярхом на кані проста на нямецкі аўтамабіль. Упаў з каня і некалькі дзён пазней памёр. Іншыя казалі, што яго падстрэлілі, праўдападобна ляснік. Гэта яшчэ не канец бяды. У чэрвені 1943 года ў Папоўцы немцы забіваюць найменшую сястру Анны — Агату з мужам і чацвярымі дзяцьмі. Яе імя першае стаіць на помніку на брацкай магіле. Згінула на трыццаць другім годзе жыцця, яе муж — на трыццаць шостым.

Родная зямля стала Анне праклятай. Кожны камень, на які спатыкалася, напамінаў пра забітых, самых блізкіх, найдаражэйшых. Адзін боль і страх перад чарговай смерцю, якая магла прыйсці ў любую хвіліну. Падумала, што куды б не паехала, будзе ёй лепш чым тут.

Зіма 1945 года. Зараз за Валілямі чыгунка пад бамбёжкай. Смяротны дождж замест марша «Развітанне славянкі». Едуць у Краснаярскі край (непадалёк ад цяперашняга месца пражывання Карыны). На месцы аказваецца, што няма дзе пасяліцца, не хапае хат. Анна з пяцярымі дзяцьмі і мамай вяртаюцца ў Беларусь. Аказваецца, што да хаты ў Слоніме трэба даплачваць, таму што нетупская, пабудаваная мужам Анны, хаця новая, не была завершаная ўсярэдзіне. Няма грошай, але ёсць банкаўскія крэдыты. Узамен за пакінутую ў Нетупе гаспадарку надзяляюць каваклак зямлі, якраз на невялікі агародчык.

Анна была выдатнай краўчыхай, нашмат лепшай чым нетупская. Таму пасля пераезду да мужа ўсе нетупскія бабы абшываліся менавіта ў яе. У Слоніме таксама займалася кравецтвам. Шыла разам з дочкамі. Так зараблялі на хлеб. Наймалодшая Яўгенія вымала фастрыгу.

Абакралі яе двойчы — у Слоніме, зараз пасля пераезду. Вынеслі з хаты амаль усё. Засталася толькі адна бабуліна сукенка. Ляжала ў кутку, мабыць, не заўважылі. У скрадзенай вопратцы фарсілі па слонімскім рынку жонка і дзеці аднаго з крынскіх перасяленцаў. Карына ведае яго прозвішча, але не хоча сароміць дзяцей і ўнукаў злодзея. Скраў таксама торбу з усімі дакументамі, мабыць, думаў, што яна з грашыма. Найстарэйшая дачка Зоя, каб аблегчыць быт, падалася ў Брэст афармляць пенсію па забітым бацьку. На жаль, без дакументаў было гэта немагчыма.

Карына дастае з торбы копіі метрык нараджэння — Дарашкевіч Анна Пятроўна, узрост устаноўлены доктарам, Дарашкевіч Аляксандр Міхайлавіч. Месца выдачы дакумента — Слонім. Знайсці метрыкі прадзеда, дзеда, на жаль, не атрымалася ні ў Шудзялаве, ні ў Крынках.

Спадар Хлябіч запрашае Карыну ў маленькую драўляную хатку ў лесе пад Вершалінам. Па дарозе запыняемся ў Нетупе на фундаментах хаты дзеда Аляксандра. Наступны прыпынак — яго магіла ў Грыбоўшчыне. У хатцы чакаюць нас жонка з радней, суседзямі і накрыты стол — круглы, засцелены белым абрусам і застаўлены свойскай ежай. Спадару Хлябічу выліваецца бутэлечка з півам, на шчасце.

Скрадзенае вярнулася. Праўда, не неадкладна, толькі пасля доўгіх дзесяцігоддзяў. Унучка Анны — Карына — зрабіла кар'еру ў міністэрстве фінансаў.

Дочкам таксама жывецца някепска. Найстарэйшая Зіна закончыла ленінградскі ўніверсітэт, Галіна стала акушэркай, Яўгенія — маці Карыны — закончыла гродзенскі Педагагічны інстытут, факультэт беларускай гісторыі, мовы і літаратуры. Раз'ехаліся ў Мінск, Маскву, сын Антон — у Гародню. Дачка Аляксандра ўжо памерла.

Два гады таму Карына ездзіла ў Слонім. Іхняя хата яшчэ трымаецца. Новыя гаспадары добра прынялі Карыну. Тужыць яна па Беларусі. Трыццаць гадоў жыве ў Стаўрополі на Паўночным Каўказе. Паехалі там за бацькам, афіцэрам. Там знайшла сабе мужа. Выдатна размаўляе па-польску. Навучылася сама, яшчэ ў дзяцінстве ў Слоніме, з польскіх тэлеканалаў. Улюбілася тады ў Севярына Краеўскага.

А мне на тыдзень да нечаканай сустрэчы з Карынай прысніўся Уладзімір Пуцін. Выбраўся на мае вясковыя экспедыцыі. Шмат мы з ім прагаварылі, у больш чым сціплых умовах, быццам старыя сябры. Раптам з неба спусціўся службовы верталёт і забраў Пуціна ў Маскву.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН




# Чыгунка ў грыбным лесе

У беластоцкай чыгуначнай білетнай касе папрасіў я білет з Беластока ў Саколе сабе і ровару. Касірка заглянула ў свае паперы і адказала, што ў поездзе не прадбачана месца для веласіпедаў. Але білет для ровара была гатова прадаць. Ну, добра, калі так, — заўважыў я, — то і веласіпед паедзе.

— Калі згодзіцца яго ўзяць праваднічка, — адказала касірка.

— А ці можа яна не згадзіцца, калі ў мяне будзе білет?

— Можа не забраць ровара, калі не будзе месца...

Паколькі аставалася ў мяне яшчэ шмат часу, рашыў я махнуць рукою на такія адмысловыя чыгуначныя латарэі і падацца ў Саколе байкам — на мерапрыемства, прысвечанае 130-годдзю Палескай чыгункі. Веласіпедам на чыгуначнае мерапрыемства... Можа гэта нават лепш, рашыў я, бо пабачу больш свету.

З вакзала рушыў я вуліцамі маршалка Пілсудскага і гетмана Браніцкага, бо на гэтым шляху байкавыя дарожкі пралягаюць у адмысловых тунэлях. Да таго ж чакала мяне прыемнае здзіўленне, што адрэзак байкабана насупраць беластоцкага драмтэатра, пасля доўгіх месяцаў выканаўчай задышкі, у рэшце рэшт атрымаў недастаючы насціл...

З Беластока ў Супрасль асобная веладарожка з асфальтавым насцілам. Той насціл тоненькі і буйнеючыя сасновыя карані без вялікай натугі ўносяць свае карэктывы ў яго вертыкальны разрэз; значыць асфальтавая дарожка пачынае выглядаць так, як і звычайная грунтавая дарожка з паднятымі папярочнымі каранішчамі.

Веладарожка не толькі да Супраслі, але цягнецца яна яшчэ далей — аж да Цялічанкі. Перад Цялічанкай паказваецца ў поўнай красе карціна лесапавалу, які ў пачатку лета ўчыніў ураган. Ствалы паваленых дрэў ужо папілаваныя і складзеныя ў прызмы, вывернутыя каранішчы яшчэ на сваіх месцах. Пройдзе яшчэ крыху часу, пакуль дзіры ў лясных прасторах будуць залатаны новымі пасадкамі...

За Цялічанкай канчаюцца асфальты, а іх ролю прымае жвір. Жвір у якасці дарожнага насцілу капрызны: ён можа быць роўна спрасаваны і па такім насціле нават прыемна ехаць любым сродкам перамяшчэння. У жвіроўцы могуць быць таксама непрыемныя калдобіны або гэтак жа непрыемная хвалістасць, якую ў народзе называюць валкаўніцай. А дзе-нідзе жвіроўка можа быць сухая і рассыпная як пясок на Сахары. Такая разнароднасць ад Цялічанкі да Калодна, дзе асфалт аж да баранавіцкай шашы ў Каралёвым Мосце.

Царква ў Каралёвым Мосце адкрыта, правіцца набажэнства; заглядаю — паніхіда. Побач царквы бетонны прамавугольнік з ляском замацаваных там крыжоў. Тройка жанчын на лавачцы перад царквой тлумачыць мне, што гэта ранейшыя крыжы з царквы; на царкве крыжы новыя...

Ад Каралёвага Моста ў Саколе памечаны веласіпедны маршрут па лясных дарогах. У пэўным месцы той маршрут сыходзіць з выразнай лясной дарогі ў дарогу паступова зарастаючую лясной расліннасцю. На гэтай дарозе паламаны і загароджаны масток. Відаць, даўно той масток паламаўся, калі дарога да яго ўжо ўспела зарасці. Абыходжу той масток па недалёкай бетоннай запрудзе ляснога вадаёма, але памечанага маршрута не знаходжу. Усё ж такі дабіраюся ў Саколе пунктуальна, быццам легендарны міжваенны цягнік.

Вакол святліцы, якая там называецца Цэнтрам мясцовага вырабу, у нядзелю, 4 верасня, шмат народу і агульная мітусня. Пасля пятнаццаці хвілін раздаецца голас Барбары Пахольскай, якая ў розны час займала відныя беластоцкія пасады, а цяпер пастаянна жыве менавіта ў Саколі. У яе прыродныя лідарскія якасці і яна выдатна імі карыстаецца, суцішаючы мітусню і заводзячы прадбачаны праграмай парадак мерапрыемства. А мерапрыемствам гэтым юбілей 130-годдзя Палескай чыгункі, што пралягла з Беластока ў Баранавічы, спалучаны са штогод ладжаным Міхалоўскай гмінай Святам грыба. На маю асабістую думку больш адпаведным месцам для такога спалучанага мерапрыемства была б станцыя ў загарадоцкіх Зубках, дзе на чыгуначных пуцях вырас ужо неблагі лес... Дарэчы, да арганізацыі мерапрыемства далучыліся ўлады Гарадоцкай гміны, Надлясніцтва Жэдня ды Рэгіянальная дырэкцыя дзяржаўных лясоў у Беластоку.

Барбара Пахольская інфармуе пра вёску Саколе, у якой зараз пастаянна пражывае амаль сто семдзесят душ; гэты лік у разгар летняга сезона ўзбуйняецца трохкратна. Хаця ў 1886 годзе чыгунка пралягла пры самой вёсцы, аднак прыпынку тут не было; на поезд трэба было падавацца ў адлеглую за тры кіламетры



Жэдню. Ды жыхары Саколя талакой пабудавалі прыпынак, насыпалі перон і каля іх вёскі сталі тады спыняцца цягнікі.

Вядучая прадставіла найбольш знатных гасцей мерапрыемства, асабліва месца адводзячы Анджэю Каспяровічу, таксама жыхару Саколя, нястомнаму даследчыку тамашняй мінуўшчыны, аўтару некалькіх кніжак пра Саколе. Гэта менавіта ён выхадайнічаў узнаўленне пасажырскага руху паміж Беластокам і станцыяй Валілы. Узнаўленне часовае, толькі па суботах і нядзелях у летні сезон. Прысутныя на мерапрыемстве гмінныя, маршалкоўскія і чыгуначныя чыны, якіх спадарыня Пахольская выклікала да мікрафона, запэўнівалі пра сваю прыхільнасць да ўсялякага захавання і ўзбуйнення чыгуначнага руху на гэтай лініі. Ці так будзе — пакажа час. І настойлівасць менавіта Анджэя Каспяровіча, які, як мне паказалася, належыць да той пароды людзей, якія, калі іх вытураюць дзвярмі, вяртаюцца акном і дабіваюцца свайго.

Што дакладна гаварылі згаданыя чыны, тое запісала ў свой электронны нататнік Дарота Сульжык, якая зараз рэдагуе „Гарадоцкія навіны”, і пэўна там знойдуцца галоўныя сказы чыноўнікаў. Спадарыня Дарота не толькі збірала журналісцкі матэрыял — яна прэзентавала таксама свае выдатныя мастацкія вырабы. Калі яна нейкія гады таму з’явілася ў „ніўскай” рэдакцыі, мне зусім не здавалася, што ў тадышняй ціхенькай дзяўчыны такая буйнаталенавітая душа. І такою феерычнай кветкай расцвіў яе талент — так я мяркую — на плённым сямейным грунце, у якога ўраджайнасць уносіць таксама ўклад і ейны муж Юрка Сульжык, таксама прысутны на свяце.

Дарэчы, вырабы сваіх думак і рук прэзентавалі на фэсце і іншыя творцы, творцы вырабаў так для цела, як і для душы. Хаця б названы раней Анджэй Каспяровіч, які падпісваў сваю толькі што выдадзеную кніжку прысвечаную 130-годдзю Палескай чыгункі...

На ладжаны Надлясніцтвам Жэдня конкурс збірання грыбоў я ўжо не аставаўся, не спадзяваючыся нейкіх збіральніцкіх рэкордаў пасля некалькіх дзён адносна сухога надвор’я. Таксама не аставаўся на канцэрт, у якім мелі выступіць, м.інш. беластоцкі „Світанак” і гарадоцкі „Хутар”. Ні на прэзентацыі кулінарных умеласцей. Мяне карціла чыгунка: забяруся я на той поезд ці не... Поезд стаяў на прыпынку Саколе і меў ад’ехаць дзве гадзіны пазней. Аднак я не хацеў рызыкаваць доўгага чакання з невядомым вынікам — забярэ ці не.

Забраўся я на свой транспарт і паехаў у напрамку Беластока, каб, калі б не забраўся на поезд, мець бліжэй да дому. На шляху, пры лясной дарозе пабачыў я, утуленага пад пясок і мох, байкаватага каштанавага махавіка. Быў гэта першы пабачаны сёлета мною грыб. Вось такое і ў мяне атрымалася свята грыба...

Заехаў я на прыпынак Заязерцы; там аставалася мне каля сарака мінут. У міжчасе на перон прыпынку зайшлі дзве пары людзей у сярэднім узросце. Адна з жанчын апавядала сваім кампаньёнам, што ейныя дзяды будавалі будынак тамашняй пачакальні. Я пацікавіўся ў яе, калі гэта было. Нейкіх сорак гадоў таму, адказала мне. Будавалі ўсё талакой, жыхары Заязерцаў, Камянкі, Татароўцаў, Бабровай...

Гэтак жа будавалі ў той час прыпынкі і ў іншых месцах. Тады, або крыху раней або пазней, з’явіліся прыпынкі ў Моры, Старым Беразове, Хітрай, Новым Нурцы, Галоўках, Палічнай ды, мабыць, у Страшаве і іншых мясцовасцях. Бо з міжваеннага перыяду на баранавіцкай лініі ў пасляваенных межах Польшчы асталіся чатыры прыпынкі: Кур’яны, Жэдня, Валілы і Крынкі. Наконт апошняга прыпынку міжваенны краязнаўца Мечыслаў Арловіч так пісаў: „**Nazwa stacji pochodzi od położonego 18 km na północ miasteczka Krynki. Ostrzega się jednakże jadących do Krynek przed korzystaniem z tej stacji, gdyż z tej strony brak jest dojazdu do Krynek, istnieją tylko piaszczyste i błędne drogi**”. Назву станцыі недзе каля 1960 года памянялі на Зубкі; цяпер тая станцыя, як ужо згадвалася, зарасла дрэвамі...

Дарэчы, Арловіч падобным чынам пісаў і пра станцыю Валілы: „**Waliły, stacja o niezbyt fortunnej nazwie, gdyż wieś Waliły leży 5 km na północ. W bezpośrednim sąsiedztwie stacji (1 km na południe) leży miasteczko Gródek, położone nad rzeką Supraślą niedaleko jej źródeł**”.

На прыпынак у Заязерцах прыйшоў яшчэ старэйшы мужчына з, мабыць, унукам. Дзедка адразу сеў у траве, бо зараз іншага месца для чакання поезда ці іншага адпачынку на ніводным прыпынку ад Кур’ян да Валіл няма. А калі поезд ужо наблізіўся, той жа дзедка выказаў пажаданне, каб цягнік ездзіў тудою штодзённа. На гэта іншы пасажыр адказаў, што трэба было б пазабіраць людзям самаходы, то тады можа нехта ездзіў бы цягнікамі. Цяпер на трасе няма ніякіх выгад для патэнцыйных пасажыраў. І ў Саколі, калі прамаўлялі чыны, не ўдалося мне пачуць нічога, што сведчыла б пра іх заклапочанасць гэтай катэгорыяй мабільных людзей.

Зараз рэйкі ў Заязерцах пакрыты прыдушанай іржою. Апошнія цягнікі між станцыямі Валілы і Беласток выедуць сёлета 9 кастрычніка. А пасля іржа зноў чулліва прытуліцца да родных ёй рэек. А мне ж у рэшце рэшт усё ж такі ўдалося забрацца на цягнік...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# У Ляўкове

У „доўгі ўік-энд“ заглянуў я ў Ляўкова. Перад стараляўкоўскай святліцай гаспадары ляўкоўскай царквы Ірэна і Уладзімір Сухадолы прывезлі ваду, як аказалася, для прыёму пілігрымаў, што мелі тут спыніцца на пачастунак, вандруючы з Беластока на Грабарку. А ў самой святліцы гаспадынькі духоўнага жыцця ў ляўкоўскім наваколлі Галена Рэент, Альжбета Кунцэвіч ды Крыстына Паскробка расстаўлялі сталы для спадзяваных гасцей, якіх невядома колькі мела быць, бо ж шэсце адкрытае, да яго можа далучацца любая колькасць паломнікаў. І трэба, каб у харчавальным пункце ўсім ім хапіла ежы — як у Кане-Галілейскай віна...

Наш ляўкоўскі карэспандэнт Янка Целушэцкі часта інфармуе на старонках „Нівы“, хто ў Ляўкове нас чытае. І ў ліку передавых чытачоў называе Валянціну і Аляксандра Ігнацюкоў з Новага Ляўкова. Тады я рашыў заглянуць да іх, каб выведаць іхняе меркаванне пра змест нашага тыднёвіка. Перад домам завіхалася гаспадыня, Валянціна, мая колішняя суседка; а Аляксандр быў недзе са сваёй тэхнікай у полі. Ну і я ж спытаў Валю, пра што яна з мужам так пільна ў „Ніве“ чытае...

— А мы яе так вельмі не чытаем, — адказала мне.

— Як жа так? — здзівіўся я. — То ж Ваня піша, што вы ў ліку самых пільных нашых чытачоў.

— Ну то мы аглядаем там карцінкі, і толькі. Наша Уля крыху чытае...

Паклікала тады Валя сваю дачку...

— Я чытаю гараскопы, — заявіла яна.

— І што: здзяйсняюцца? — пацікавіўся я.

— Пэўна — усё збываецца, — рашуча заявіла спадарыня Уля...

Вось такая карціна з гэтым нашым чытальніцтвам: пажылейшыя людзі цяпер глядзяць у газету як у тэлевізар, на карцінкі; прывыклі да тэлевізара. А можа гэтакім машынальным чынам вяртаюцца ў час ранняга дзяцінства, да буквароў, дзе галоўным зместам былі менавіта карцінкі. А малодшыя, якія ўжо мелі дачыненне з камп'ютарамі, дзе трэба сёе-тое прачытаць, глядзяць у газету як у камп'ютар і яе крыху таксама чытаюць. І маладыя больш дапытлівыя, перад імі ж жыццё з неразгаданымі тайнамі. І гараскоп гэта такая дзірка ад ключа ў нязведаную тайну, гэта быццам яблык з райскага дрэва пазнання...

Мяне яшчэ была моцна затрывожыла адна ляўкоўская справа. Менавіта ў ліку самых передавых чытачоў нашага тыднёвіка, паводле рэйтынгу Янкі Целушэцкага, лічылася Эва Дзеніс. І вось яе ў апошнім пераліку не стала. У тэлевізары ж былі нядаўна паказалі, што яна вельмі хворая. І вось я затрывожыўся, ці з нашай чытачкай чаго дрэннага не сталася. Спытаў я пра гэта Валю...

— А я нічога не ведаю, што з ёю; ніякіх чутак пра яе не было, — адказала.

Вось мне загвадка. І так сабе я падумаў, што, мабыць, у спадарыні Эвы нешта з гараскопам не атрымалася. Бо ж яна, жанчына, напэўна дапытлівая і цікавая сваёй будучыні. І, пэўна, яе наш гараскоп падвёў. Бо ж і гараскопы могуць быць такія ж, як і людзі, і сярод гараскопаў нейкая чорная авечка знойдзецца. І калі так сталася, яна, пэўна, і махнула рукою на наш галоўны інфармацыйны сэрвіс.

А нашы ж гараскопы самыя яксныя. Яны ў сваёй агульнай масе як белыя авечкі. Як белыя ландышы. Як блакітныя незабудкі. Як чырвоныя макі. Як абразкі ў тэлевізары. Як карціна чытальніцтва ў Янкі Целушэцкага.

А Янка Целушэцкі, малюючы перад намі каляровую карціну нашага чытальніцтва, радуе нас. І сябе радуе, што так паспяхова ладзяцца ў яго справы. Быццам піша шчаслівы гараскоп, што чаканае збудзецца. І так разам, талакой, глядзім на свет не надта такі як у рэальнасці, а на такі, як у каляровым тэлевізары, буквары ці ў шчаслівым гараскопе...

І ў Ляўкове радасці столькі, як у Кане-Галілейскай віна...

**(ав)**






За цяперашнім часам інтэрнэт настолькі глыбока ўвайшоў у наша жыццё, што можна без перабольшання сцвярджаць: калі пра нейкага чалавека не згадваецца ў Сусветным павуціні, то яго, пэўна, няма ўвогуле. Той, хто хоча, каб ён ці яго праца былі больш заўважнымі, стварае ўласны сайт. Аднак проста стварэння сайта цяпер ужо замала, каб людзі бачылі цябе сярод дзеючых асоб — гэты сайт трэба цэлы час абнаўляць і нават перарабляць, выкарыстоўваючы новыя тэхналогіі.

Адным з прыкладаў такога даволі дбайнага стаўлення да свайго віртуальнага прадстаўніцтва з'яўляецца сайт мастака Паўла Татарнікава. Пра яго віртуальнае прадстаўніцтва, што раней месцілася па адрасе **www.tatarnikov.com**, „Ніва“ расавядала акурат 12 гадоў таму ў нумары ад 19 верасня 2004 года. Але цяперашні сайт мастака, крыху са змененым адрасам — http://tatarnikov.com/ варты таго, каб зноў засяродзіць на ім сваю ўвагу.

У адрозненні ад сайта больш чым дзесяцігадовай даўніны, новая інтэрнэт-бачына Татарнікава адразу здзіўляе сваёй незвычайнасцю. А ўсё з таго, што галоўная старонка ўяўляе сабой рухомы малюнак краявіду з нейкімі гарамі, сярэднявечнымі вежамі, крэпасцямі, гукамі конскага тупату і іржання, крыкамі вояроў, бразганнем старадаўняй зброі, стралянінай. І ўсё гэта суправаджае дакучлівы піск камара, які выклікае жаданне хутчэй перайсці да іншых старонак сайта, у прыватнасці да той, дзе паведамляецца пра яго ўладальніка.

„Прывітанне ўсім, хто любіць мастацтва, кнігу і мастацтва кнігі! З самага дзяцінства я люблю чытаць і маляваць. Прашу прабачэння ў старэйшых мастакоў, але часам я маляваў у кнігах. Проста дадаваў тыя дэталі, якіх на мой дзіцячы погляд не хапала ў ілюстрацыях. На шчасце, бацькі не забаранялі такую творчасць. З гэтага, відаць, і пачаўся мой шлях да прафесіі мастака-графіка. Што атрымалася зрабіць да гэтага часу, я прапаную паглядзець на старонках майго сайта“, — распавядае Павел Татарнікаў у аўтабіяграфічнай рубрыцы „Аўтар“. Там жа месціцца яго біяграфія, а таксама вялікі пералік узнагарод, якія мастак атрымаў цягам сваёй творчай дзейнасці. Сярод іх, у прыватнасці, прыз расейскага нацыянальнага конкурсу кніжнай ілюстрацыі „Вобраз кнігі“ 2012 года ў намінацыі „Лепшыя ілюстрацыі да твораў для дзяцей і юнацтва“ за кнігу „Прынцэса ў падземным царстве“, залаты медаль конкурсу ЗША „Месячны прамень“ 2008 года за ілюстрацыі да кнігі „Кароль Артур“, дзяржаўная прэмія Беларусі 2010 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.

Манера і стыль, у якім піша Татарнікаў, выдатна адлюстроўваюць рубрыкі „Ілюстрацыі“ і „Графіка“. Там месцяцца як партрэтныя малюнкі, так і краявіды. Праглядаючы прадстаўленыя на сайце выяўленні, прыходзіш да высновы, што мастак мае нейкі сантымент да сярэднявечча, бо ў вялікай колькасці яго твораў імкнецца перадаць дух менавіта той эпохі.

Нягледзячы на тое, што сайт Паўла Татарнікава аздоблены шматлікімі здымкамі і выяўленнямі, рубрыка „Навіны“ абнаўляецца не надта часта. Так, апошняе паведамленне там датуецца леташнім лістападам. Разам з тым за апошні год падзеі, датычныя мастацкай творчасці Татарнікава, адбываліся — хаця б тая ж мастацкая выстава ў Бабруйску ў маі бягучага года.

❖ **Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

**Дата з Календара** **Дата з Календара** **Дата з Календара** **Дата з Календара** **Дата з Календара**

Год антысавецкага супраціву на тэрыторыі Беларусі



## 65 гадоў з часу дэсанту Янкі Філістовіча

9 верасня 1951 г. пад Маладзечнам дэсантаваўся Янка Філістовіч, беларускі дзеяч нацыянальна-вызвольнага руху, публіцыст, герой антысавецкага супраціву. Роўна год ягоная група вяла няроўнае змаганне з саветамі.

Нарадзіўся Янка Філістовіч 90 гадоў таму — 14 студзеня 1926 г. (паводле іншых звестак — 1927 г.) у вёсцы Паняцічы (цяпер Вілейскі раён). Яго дзяцінства і юнацтва прайшлі ў Заходняй Беларусі. У час Другой сусветнай вайны Філістовіч у траўні ці ўвосень 1943 г. быў мабілізаваны ў 13-ы паліцэйскі батальён, які размяшчаўся ў Вялейцы і ў Менску. Перад прыходам Чырвонай Арміі эміграваў у Нямеччыну. У жніўні 1944 г. вайсковая частка, дзе ён служыў, была накіраваная ў Італію, дзе да студзеня 1945 г. брала ўдзел у баях супраць англаамерыканскіх войск. У лютым 1945 г. у Чэхаславаччыне за спробу перайсці да чэшскіх партызан Філістовіч быў адпраўлены ў турму горада Пардубіцэ, адкуль быў вызвалены 8 траўня 1945 г.

Пасля вайны Янка Філістовіч перабраўся ў Францыю. Вывучаў гісторыю ў Сарбонскім (Францыя) і Лювенскім (Бельгія) універсітэтах. Выдаваў часопіс „Моладзь“, быў адным з лідараў Беларускай незалежніцкай арганізацыі моладзі ў Францыі. У Парыжы наладзіў кантакт з Міколам Абрамчыкам, стаў сябрам Рады БНР, упаўнаважаным прадстаўніком урада БНР. У сакавіку 1951 г. узяўся за місію кантактаў беларускіх эміграцыйных улад з падполлем на тэрыторыі БССР. Пасля трохмесячнай падрыхтоўкі на базе Каўфбэрэн каля Мюнхена накіраваны ў раён, з якога паходзіў, у складзе амерыканскага дэсанта.

Праз сваяка Пятра Кушала Філістовічу ўдалося наладзіць сувязь з групай С. Мікуліча, якая складалася з 5 чалавек і дзеіла на тэрыторыі Іллянскага раёна. З 1949 г. Філістовіч пераняў камандаванне групай і зрабіў спробу пераўтварыць яе ў вайскова-палітычную арганізацыю. Увёў дысцыпліну, праводзіў ідэйную і падпольную падрыхтоўку, забараніў рабаванні і напады на мясцовы актыў. Група „Беларуская нацыянальна-вызвольная ўзброеныя сілы“ і пачала падрыхтоўку да палітычна-прапагандысцкай дзейнасці. У красавіку 1952 г. атрад правёў у Вязыньцы пад Маладзечнам напад на друкарню, якая выдавала газету „Шлях да камунізму“. Партызаны забралі друкарскую машыну. На ёй планавалася друкаваць газету „Жывое Беларусь!“, але адсутнасць доследу, а таксама некаторых элементаў не дазволіла ажыццявіць план.

5 верасня 1952 г. аператыўнай групай МГБ БССР была праведзеная аперацыя па ліквідацыі групы Філістовіча. У перастрэлцы ў ноч каля вёскі Самалі (Маладзечанскі раён) гэбістамі былі забіты ўдзельнікі групы Іван Будкевіч і Міхась Петрусевіч. Філістовічу ўдалося ўцячы і ён меркаваў перайсці мяжу з Польшчай, але 9 верасня ў вёсцы Ярмолічы ў выніку здрады быў арыштаваны групай гэбістаў.

У кастрычніку 1953 г. у Мінску Янка Філістовіч быў засуджаны ваенным трыбуналам ваеннай акругі да смяротнай кары. Апошні дакумент, які ён уласнаручна падпісаў, гэта яго касацыйная скарга ў Ваенную калегію Вярхоўнага суда СССР, якая датуецца 11 лістапада 1953 г. (скарга напісана ў Мінску). Пасля гэтай даты Янка Філістовіч, як мяркуецца, быў расстраляны. Супраць яго сваякоў і тых, хто дапамагаў у яго дзейнасці, праведзены рэпрэсіі. Крымінальная справа № 3383 захоўваецца ў Цэнтральным архіве КДБ Рэспублікі Беларусь у Мінску.

❖ **Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Выкарыстанне сродкаў ПФРОН на Гайнаўшчыне

Сёлетні бюджэт Дзяржаўнага фонду рэабілітацыі асоб з абмежаваннямі — ПФРОН складае суму 4 842 786 000 зл., прычым паступаюць яны з датацыі дзяржаўнага бюджэту — 746 360 000 зл. (15,4%), са складчын і аплат прадпрымальнікаў — 3 648 380 000 зл. (75,3%), якія не прымаюць на працу асоб з абмежаваннямі, або лік інвалідаў у іх прадпрыемствах невялікі. У 61,47% гэтыя сродкі вяртаюцца да прадпрымальнікаў у якасці даплат з фонду ПФРОН. Апошнія 38,53% застаюцца ў распараджэнні Праўлення і размяркоўваюцца паміж ваяводскія і павятовыя самаўрады. Практычна паведамленні аб прызначэнні сродкаў ПФРОН у паветы паступаюць у першым квартале года, у большасці выпадкаў у лютым. Пасля Рада павета на сесіі прымае пастанову аб іх размеркаванні.


Кіраўнік Павятовага цэнтра дапамогі сям'і Павел Шыманюк

Сёлетні бюджэт ПФРОН Гайнаўскага павета складае суму 1 043 034 зл. Рэалізацыяй задач у сферы прафесійнай рэабілітацыі займаецца Павятовае ведамства працы, якое атрымала 74 450 зл. і Павятовы цэнтр дапамогі сям'і (ПЦДС) з гадавым фондам на сацыяльную рэабілітацыю 993 034 зл. А вось на якія мэты і якія сумы ПЦДС выдаткуе сёлета: курортная рэабілітацыя — 120 000 зл, ліквідацыя архітэктурных і тэхнічных бар'ер — 35 000 зл, рэабілітацыйныя прылады і дапаможныя матэрыялы — 248 724 зл., спорт, культура і адпачынак — 5 000 зл., майстэрні працатэрапіі — 559 860 зл.

Выдаткаванне сродкаў адбываецца згодна прынятай пастанове Рады павета, за выключэннем сродкаў прызначаных на бягучае функцыянаванне майстэрні працатэрапіі. Па вылучэнні квот, прызначаных на прафесійную рэабілітацыю (74 450 зл.) і заняткі ў майстэрні працатэрапіі (559 860 зл.) на сацыяльную рэабілітацыю застаецца 408 724 зл. На думку кіраўніка Павятовага цэнтра дапамогі сям'і Паўла Шыманюка, на рэалізацыю намечаных задач грошай не хопіць. Таму неабходным было абмежаванне даплат. Як паведаміў кіраўнік ПЦДС, на 10 жніўня г.г. на курортную рэабілітацыю выкарыстаны поўны ліміт — 120 000 зл. Прад'яўлены былі 199 заявы на даплаты да курортных пуцёвак, у гэтым ліку 182 ад дарослых і 17 ад апекуноў дзетак. Па прычыне абмежавання сродкаў даплаты атрымалі адно 84 заяўнікі, а для 115 чалавек было адмоўлена. Курортныя сезоны доўжацца два тыдні. Даплата абгрунтоўваецца ступенню абмежавання здароўя: пры значнай ступені — 1 254 зл., памяркоўнай — 1 129 зл., лёгкай — 1 045 зл., і для апекуна дзіцяці — 836 зл. Цэны курортнага сезона абгрунтаваны шматлікімі крытэрыямі і складаюць сумы ў сярэднім ад 1 200-1 300 зл. да 2 тыс. зл. Дафінансаванне прызначаецца такому асяродку, які зарэгістраваны ў Ваяводскай управе. На Гайнаўшчыне такім асяродкам з'яўляецца Дом сацыяльнай дапамогі ў Белавежы. Кошт двухтыднёвай пабыўкі складае 1 300 зл. у старой частцы будынка і 1 450 зл. у новай.

Майстэрню працатэрапіі вядзе Свята-Троіцкая царква ў Гайнаўцы. Майстэрня прызначана для 35 чалавек. Усе месцы заняты. У 90% сродкі паступаюць з ПФРОН, а ў 10% з бюджэту Павятовага староства.

На рэабілітацыйныя прылады і дапаможныя матэрыялы на планаваныя 248 724 зл. да 10 жніўня выкарыстана 161 514 зл. Паступіла 566 заяў ад 377 заяўнікаў (асоба з абмежаваннямі можа падаваць некалькі заяў на паасобныя прылады). Усе заявы былі адобраны, а ў пазнейшым тэрміне будуць яны афармляцца да канчатковага выкарыстання сродкаў.

На ліквідацыю функцыянальных бар'ер прызначана 35 000 зл. Сродкі на гэту мэту поўнасцю выкарыстаны. Паступіла 25 заяў. Падпісана 13 дамоў, у тым ліку на 4 умывальнікі, два пад'езды для асоб з абмежаваннямі і сем артапедычных ложкаў.

**Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА**

## Бясплатныя лякарствы для сеніёраў

З 1 верасня абавязвае абяцаная ПіСам чарговая праграма «Бясплатныя лякарствы для сеніёраў», якім больш за 75 гадоў жыцця. Праўдай з'яўляецца тое, што Бэата Шыдла не стрымала дадзенага выбаршчыкам у час выбарчай кампаніі слова (пяць асноўных праектаў на першыя сто дзён кіравання ўрадам), паколькі закон ажыццяўляецца з васьмімесячным спазненнем. Не ўсе лякарствы сеніёры атрымаюць бясплатна, аб чым заяўляла яна раней. На прад'яўленым урадам спіску запісана адно 1 129 лекавых прэпаратаў, якія дагэтуль выдаваліся пацыентам па аптовай цане і з 30- і 50-працэнтнымі ільготамі. Тычыцца гэта такіх хвароб як павышаны крывяны ціск, малакроўе, апаплексічны склероз, трамбоз (згушчэнне крыві) ды расшырэнне вен (жаўлакі); астма, дэпрэсія і атупленне (хвароба Альцхаймера і Паркінсона); прагцяглыя хваробы лёгкіх.

Міністэрства папярэджвае сямейных лекараў, бо гэта на іх спачывае асноўны абавязак выканаўцы закона, каб не надта спяшаліся з прапісваннем на бясплатныя рэцэпты антыбіётыкаў і хіміятэрапеўтычных прэпаратаў, паколькі гэтыя павінны быць даступнымі адно ў лячэнні запаленчых ускладненняў мачавыдзяляльнай сістэмы і прастаты ў мужчын.

Спісак бясплатных лякарстваў будзе папоўнены чарговымі прэпаратамі пасля двух месяцаў — 1 лістапада. Па ацэнцы Міністэрства здароўя сеніёры на гэтай рэформе зэканомяць больш за трыста мільёнаў злотых. Аб паспяховасці згаданага праекта пэўна неўзабаве выкажуцца самі пацыенты. Затым пачакайма з ацэнкай.

**(ус)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. масіў зямлі зарослы дрэвамі = 13 _ 17 _ 12 _;
2. пачуццё журбы, прыгнечанасці, якога шмат ва... ўкраінскім абласным горадзе на Псёле = 8 _ 7 _ 6 _;
3. законная пастанова вярхоўнага органа ўлады = 1 _ 19 _ 20 _ 15 _;
4. не сон = 11 _ 9 _ 10 _;
5. спажыва, ежа = 14 _ 18 _ 16 _;
6. натуральны падатак у даўняй заволжскай Расіі = 3 _ 2 _ 5 _ 4 _.

**(ш)**

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 |
| | | | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | | | 17 | 18 | 19 | 20 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 34 нумара**

Палеазой, Мюнхен, зарыва, Сірыя, Яновіч, прысак, езуіт, янычар, Калі, бетон, ішыяс, вясна, ёрш.

Рашэнне: **Не хваліся як пачынаеш, не тойся як зробіш**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# 11.09 — 17.09

**(22.03. — 20.04.)** 10-13.09. твае дзеянні могуць не прынесці вынікаў. 13-19.09. вырашыш праблемы, якія патрабуюць хуткасці. 10-15.09. горача ў фірме; можа табе не хапіць таго, што было тваёй сілай — веры ў поспех і паслядоўнасці ў дзеянні; не праваронь важных дэталяў і тэрмінова вырашай праблемы. Дбай аб здароўе, змяні дыету.

**(21.04. — 21.05.)** Добрая фізічная і псіхічная форма. Аж да 21.09. Сонца падтрымлівае ўсе твае дзеянні. 10-13.09. можаш апынуцца ў няручнай сітуацыі. З 16.09. у тваю галаву прыйдзе задума, якая папхне ўперад тваю кар'еру. Можаш з поспехам змяніць штосьці ў тваім атачэнні, напр. зрабіць рамонт, змяніць інтэр'ер жылля.

**(22.05. — 22.06.)** 10-13.09. пагражаюць непаразуменні з партнёрам. 10-15.09. не ўвайдзі ў інтарэс, які кончыцца поўным правалам. Новыя знаёмствы (адно з іх стане пачаткам доўгага сяброўства). 13-17.09. выявіш усе свае таленты і без цяжкасцей паставіш на сваім. Магчымыя сюрпрызы, на якія трэба будзе хутка адрэагаваць. З 16.09. (аж да 28.09.) можаш здабыць новыя ўмеласці, прыйдуць у галаву табе цікавыя задумы на рост кар'еры; у гэты час павяліч сваю актыўнасць, шукаючы новую працу.

**(23.06. — 23.07.)** 11-15.09. дакажаш, як многа ўмееш і ведаеш. Шалу не будзе, але не будзе падстаў для наракання. Але не спакушайся на ляноту і сур'ёзна ўспрымай свае абавязкі. Дбай аб свае насавыя пазухі і вушы, асабліва ў ветраныя дні.

**(24.07. — 23.08.)** Не будзь зайздросным за чыесьці поспехі. Зоркі падмацуюць твае фінансы, разагрэюць сэрца. Задачы, якія атрымаеш, будуць патрабаваць засяроджанасці і апанавання, часам трэба будзе застацца пасля работы ці ў выхадныя ў фірме, але экстрапрэмія ўзнагародзіць твае высілкі. Ільвам з уласнай фірмай могуць валачыся перамовы — не рэагуй нервова; магчымыя страты адробіш у апошнім тыдні. Не спі пры ўключаных электрапрыборах.

**(24.08. — 23.09.)** Не бараніся перад адпачынкам і рабі сабе прыемнасці. Неба над табою вясёлае, чыстае, апрамененае ласкай. Прынясе яно табе шырокую ўсмешку фартуны! Вялікая папулярнасць (аж да 21.09.). На працы актыўнасць — прынясе яна пахвалы і грошы. На новай працы аблашчы супрацоўнікаў — хай будуць гэта каўка і пернічкі ды анекдоты аб сабе самім. З 10.09. знакаміты час на інвестыцыі. Хутка можаш памножыць свой капітал — калькуляцыю спалучы з інтуіцыяй. 10-13.09. не забудзь аб чымсьці важным. 10-15.09. не засумнявайся ў сваіх умеласцях з-за крытыкі.

**(24.09. — 23.10.)** З 10.09. ва ўсіх сферах твайго жыцця пачнецца паляпшэнне. Твае дзеянні набяруць размаху. У нічым не абмяжоўвайся! Хаця абавязкі стомяць цябе 10-13.09. Часцей выказвайся на працы ці ў школе. Шалі з уласным бізнесам маюць карысны час на маркетынг, рэкламу. Беспрацоўныя Шалі даведаюцца аб працы з нашэптаў. Добрая пара на змену іміджу.

**(24.10. — 22.11.)** Не дай справакаваць сябе да дзеянняў, якіх пасля будзеш шкадаваць. І не прасі ў сваякоў пазыкі (асабліва 10-13.09.). З 16.09. (аж да 28.09.!) пераможаш усе праблемы і паваліш канкурэнцыю. Знакаміта на працы і ў падарожжах. Адно аж да 28.09. ненайлепшая аўра для... флірту. Калі жывеш адзін, не адчыняй дзвярэй камусь, каго не ведаеш асабліва 10-14.09. Калі шукаеш новы занятак, пачні разглядацца за ім з 16.09. (да 28.09.).

**(23.11. — 22.12.)** Без роздуму зрабі сабе перапынак, каб набрацца сілы і натрапіць на знакамітыя задумы. Добры настрой, мілыя моманты з радней. Хаця 10-12.09. магчымае папсаванне атмасферы на працы. 13-17.09. можаш не ведаць, што для цябе карыснае, а што не. Але развінуцца новыя сувязі. 17.09. можаш сустрэць кагосьці, хто будзе цябе распальваць і інспіраваць.

**(23.12. — 20.01.)** Могуць прытрапіцца нязручнасці і глупствы ў кампаніі ды неспадзяваныя перашкоды якія выб'юць цябе з рытму 10-13.09. Але будзеш энергічны і крэатыўны. Усё ж цяжка будзе цябе задаволіць. Асабліва на мур натрапяць Казярогі з фірмай — правілы паводле якіх дзейнічаеце могуць змяніцца. Вырашэнне турбуючай цябе праблемы прыйдзе з 16.09.

**(21.01. — 19.02.)** 10-13.09. можаш апынуцца ў шматзначнай сітуацыі. 13-19.09. будзеш мець размах пры ўсіх сваіх дзеяннях. Лепшы настрой, гарманічныя адносіны. Не эксперыментуй з дыетамі. Але і так будзеш выглядаць молада і нятоўста.

**(20.02. — 21.03.)** 10-11.09. можаш стаць ахвярай плётак і інтрыг. Мусіш выйсці з ценю, не хавайся за іншых. Пазнаёмішся з цікавымі, спрыяльнымі табе людзьмі і гэтым пакарыстайся. Будзеш энергічны і баявіты. Калі атрымаеш прапанову працы, пачакай з рашэннем да апошняга тыдня. 16-17.09. не будзеш думаць ясна, не паддавайся эмоцыям.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Летам гэтага года мінула 15 гадоў дзейнасці Дзмітрыеўскага мужчынскага манастыра ў Саках, а крыху раней, 26 мая, адбылося асвячэнне шыкарна і грунтоўна адрамантаванай царквы святога велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага, распаложанай на горцы каля Сакоў і акружанай старымі дрэвамі і крыжамі, якія паставілі паломнікі з аддаленых мясцовасцей і сямейнікі па сваіх блізкіх асобах, паколькі каля царквы знаходзіцца прыхадскі могільнік. Рэзультаты рамонту Дзмітрыеўскай царквы, з улікам на даўнюю архітэктуру, маглі ўбачыць паломнікі, якія шматліка прыбылі 18 і 19 жніўня на святкаванне Праабражэння Гасподняга, якое мясцовыя людзі часта называюць Спасам. Святкаванне на Дзмітрыеўскай горцы адбываецца асабліва ўрачыста. Сёлета свята ўдастоіў архімандрыт Кірыла з Келлі св. Пракопа на Афоне, які пісаў іконы да новага, выкананага ў Грэцыі сакоўскага іканастаса.**



Асаблівай святыняй з'яўляецца ікона св. Дзмітрыя, памешчаная справа царквы (за ёй новы іканастас выканаhistы ў Салуні, дзе быў замучаны велікамучанік Дзмітрый

# 15 гадоў

## Дзмітрыеўскаму мужчынскаму манастыру ў Саках

Падчас святкавання Праабражэння Гасподняга частка паломнікаў падчас усяночнай багаслужбы моліцца на Грабарцы, а на наступны дзень на літургію прыязджае на Дзмітрыеўскую горку каля Сакоў. Архімандрыт Кірыла, які спецыяльна з Афона прыбыў у Сакі, гаварыў пра патрэбу ўнутранага праабражэння дзеля жыцця паводле Божых запаведзей і заклікаў мясцовых вернікаў і паломнікаў любіць Бога і бліжніх. Усяночная багаслужба служылася ў Дзмітрыеўскай царкве 18 жніўня, а 19 жніўня служыліся дзве літургіі: першая ноччу, а другая днём. Раніцай асвячалася яшчэ вада, якую вернікі набіралі ў бутэлькі і везлі дамоў, а пасля чытаўся акафіст да велікамучаніка Дзмітрыя, які быў замучаны ў грэчаскім горадзе Салунь. Святы Дзмітрый дапамагае ў розных патрэбах жыхарам Беласточчыны.

Аб заснаванні ў 2001 годзе Мужчынскага манаскага дома ў Саках, які пасля быў пераўтвораны ў Дзмітрыеўскі мужчынскі манастыр, даведаўся я пазнім летам. Ужо восенню 2001 года заехаў я ў Сакі, каб паразмаўляць з іераманахам Варсанофіем, першым настаяцелем манастыра і іераманахам Пятром, якіх мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава накіраваў арганізаваць у Саках манаскае жыццё. За сімвалічныя сродкі бургамістр Кляшчэль Аляксандр Сяліцкі і радныя Кляшчэлеўскай гміны перадалі на патрэбы будучага манастыра будынак былой школы ў Саках і школьны ўчастак. Аднак манахі пасяліліся спачатку ў доме Любы Рошчанка ў Саках, куды я накіраваў першыя крокі.

— Ты хіба будзеш сынам Веры, бо падобны да маці, — заявіла мне адразу спадарыня Люба, якая ў кухні рыхтавала абед для іераманахаў. Яе першымі словамі я быў вельмі здзіўлены, бо трапіў у дом Рошчанкаў без папярэджання аб сваім прыездзе. Хутка аказалася, што Люба Рошчанка родам з Вяліких Пасечнікаў і ў маладасці была сяброўкай сястры маёй маці, якая родам з Арэшкава.

Пасля размовы ў доме спадарыні Любы іераманахі Варсанофій і Пётр завялі мяне ў будынак былой школы ў Саках, які пуставаў і патрабаваў грунтоўнага рамонту. Ужо пазней на дакументальным фільме ўбачыў я мясцовых прыхаджан, якія парадкавалі школьны ўчастак. Мужчыны высякалі кусты і дрэўцы-самасейкі вакол школы, а жанчыны прыбіралі школьны будынак усярдзіне. Пасля невяліких рамонтных прац пасяліліся туды манахі і з часам праводзілі больш грунтоўныя рамонтныя працы, пераўтвараючы былую школу ў асноўны манастырскі будынак, куды сталі прыходзіць жыць, спачатку як паслушнікі, чарговыя асобы. Зараз у Дзмітрыеўскім манастыры жывуць і моляцца 3 іераманахі, дыякан і 4 паслушнікі. З 2009 года дзейнасцю Мужчынскага манастыра ў Саках кіруе



Архімандрыт Кірыла з Афона, які пісаў іконы да іканастаса (справа) і архімандрыт Цімафей, настаяцель Мужчынскага манастыра ў Саках на фоне адрамантаванай Дзмітрыеўскай царквы

архімандрыт Цімафей, які пераняў абавязкі ад архімандрыта Варсанофія.

— Тут ёсць спакой і адчуваецца хадайніцтва святога велікамучаніка Дзмітрыя, — гаварыў мне яшчэ раней паслушнік Якуб, сын былой настаўніцы беларускай мовы ў бельскай «тройцы» Марылькі Базылюк, які ў Мужчынскім манастыры ў Саках знайшоў сваё месца.

Да манастырскага прыхода ў Саках належаць жыхары вёсак Сакі і Тапаркі — каля 120 чалавек. Аднак маліцца ў час першай нядзельнай літургіі, пасля якой чытаецца акафіст да св. Дзмітрыя Салунскага, прыязджаюць вернікі з розных мясцовасцей Гайнаўскага, Бельскага і Сямятыцкага паветаў, а нават паломнікі з Беластока. Мясцовыя мяркуюць, што гэта велікамучанік Дзмітрый прызывае паломнікаў. Калі ў Саках паўстала манаская абшчына, даўняя ікона св. Дзмітрыя была вынесена з-за прастола і памешчана ў кіёце справа Дзмітрыеўскага храма і зараз можна да яе прыкладацца пастаянна, бо раней ікона выносілася на царкву толькі падчас Дзмітрыеўскага святкавання. Злева ў царкве на горцы будзе ў кіёце змешчана ікона св. Нектарыя з Эгіны — патрона царквы ў былым школьным будынку і другога патрона манастыра.

— Новы іканастас у царкву святога Дзмітрыя быў выкананы ў Салуні ў Грэцыі, а іконы да яго напісаў нам айцец Кірыла з Келлі св. Пракопа Ватапедскага манастыра на Афоне. Мы штогод наведваем афонскія манастыры і там вучымся духоўнасці. У пачатку верасня гэтага года ў нашым манастыры пройдзе Міжнародная канферэнцыя манахаў і манахінь з удзелам гасцей з Грэцыі і Фінляндыі, — праінфармаваў архімандрыт Цімафей.

Іканастас Дзмітрыеўскай царквы і іконы да яго выконваліся за ахвяраванні ад мясцовых вернікаў, паломнікаў і спонсараў. Сродкі з Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства ў Беластоку выдаткоўваліся на грунтоўны рамонт царквы святога Дзмітрыя і не маглі быць выкарыстаны на выкананне новага іканастаса. Зараз архімандрыт Цімафей звяртаецца з просьбай за чарговымі ахвяраваннямі, каб разлічыцца за напісанне апошніх ікон для новага іканастаса. Цяпер манахі жывуць у будынку былой школы, ужо адрамантаваным і прыстасаваным для манаскіх патрэб. У ім абсталявана ўжо царква св. Нектарыя з Эгіны, у якой манахі, паслушнікі і вернікі моляцца штодзённа. Калі ў маі гэтага года мітрапаліт Сава асвячаў царкву св. Дзмітрыя, запрапанаваў ён манастырскай абшчыне ўзвесці манастырскі будынак каля Дзмітрыеўскай царквы, на горцы, што патрабуе вяліких намаганняў. Архімандрыт Цімафей разважае збудаваць там спачатку некалькі келляў для малітваў у адасабленні. На вялікім манастырскім участку каля былога школьнага будынка знаходзіцца пасека. Манахі гадуюць яшчэ коз, якія з'ядаюць траву і не трэба ім карыстацца газонакасілкамі. З казінага малака манахі робяць сыры і прадаюць. У манастыры выробляюць таксама сыры з каровінага малака, якія без праблем прадаюць манахі для мясцовага насельніцтва і паломнікаў. Хутка разыходзіцца таксама мёд ад манастырскіх пчол. Некаторыя паломнікі рашаюцца пажыць нейкі час у манастыры і памаліцца, іншыя, каб магчы быць даўжэй блізка манастыра, маюць ахвоту нават купіць дом у Саках, Тапарках, ці суседніх Залешанах, дзе знаходзіцца Жаночы манаскі дом св. Кацярыны і жывуць у ім ігумення Елізавета і паслушніца. Матушка Елізавета кіруе прыхадскім хорам падчас багаслужбаў у Дзмітрыеўскай царкве ў Саках, а ў кожную апошнюю нядзелю месяца моліцца ў сваім манаскім доме падчас літургіі і акафіста да св. велікамучаніцы Кацярыны.

У час хроснага ходу, які 19 жніўня завяршыў святкаванні на Дзмітрыеўскай горцы, асвячаліся яблыкі, грушы і іншыя фрукты. Усе вернікі былі запрошаны падмацавацца манастырскім супам і салодкімі дадаткамі.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

ISSN 0546-1960